PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 26 (2250) Год XLIV Беласток 27 чэрвеня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Капітуляцыя Сербіі

Пасля двух месяцаў бамбардзіровак амерыканскімі самалётамі і ракетамі югаслаўскай вайсковай і гаспадарчай інфраструктуры ўлады гэтай краіны вымушаны былі прыняць ультыматум агрэсараў. Пачалася новая хваля этнічных чыстак. Са старажытнай сербскай правінцыі Косава разам з арміяй пачалі ўцякаць мірныя сербскія жыхары. Албанская тэрарыстычная арганізацыя, якая ўзнікла на аснове мафійнага капіталу, пры падтрымцы палітыкаў краін НАТО вырасла сёння на важную палітычную сілу. Вызвольная армія Косава тэрорам прымушае сербаў пакінуць правінцыю. Зразумела, НАТО будзе нават пратэставаць супраць такіх дзеянняў, але супраць саюзнікаў выступаць не стане. Албанцы атрымалі такую свабоду дзеяння ў адносінах да сербаў, як туркі ў адносінах да курдаў. Таму, зразумела, большасць сербаў звычайна ўцякае з албанска-натаўскай зоны.

На тэрыторыі Югаславіі ўжо другі раз натаўскія генералы паспрыялі „ачышчэнню" правінцыі з сербскага насельніцтва. Раней дапамаглі харватам выгнаць іх з правінцыі Крайна, якая цяпер стала чыста харвацкай. Ужо першага дня прысутнасці натаўскіх войскаў у Косаве немцы забілі трох сербскіх салдат абараняючых мірнае насельніцтва ад здзекаў албанскіх партызан. Паказвае гэта, што працэс „ачышчэння" Косава павінен пайсці паспяхова. Амерыканская прапаганда ў польскім тэлебачанні і г.зв. незалежнай прэсе не пакідае сумнення, што ўсё гэта будзе паказана як вялікая перамога дэмакратыі і свабодалюбівых імкненняў „вольнага свету". Раней гэтая прапаганда давяла да свядомасці мільёнаў людзей у свеце, што кідаць бомбы на Сербію натаўскіх генералаў прымусіла заклапочанасць пра правы чалавека ў правінцыі Косава. „Bomby, spadające na Belgrad, to są bomby niosące pokój" — гаварыў міністр Марэк Сівец з канцылярыі прэзідэнта Аляксандра Квасьнеўскага. Амаль тое самае паўтараў сам прэзідэнт, а Унія вольносці заявіла, што патрыятызм кожнага, хто не падзяляе натаўскага пункту гледжання, ставіцца пад сумненне. Пра выказванні прэм'ер-міністра Ежы Бузка і іншых салідарніцкіх палітыкаў не варта ўспамінаць.

У ходзе югаслаўскай вайны з найгоршага боку паказалася прапаганда. Аказваецца, што г.зв. свабода выказвання не гарантуе аб'ектыўнай інфармацыі. За брэхам усялякіх прапагандыстаў не відаць густой сеткі малых інтарэсаў, якія прымушаюць выдавецтвы і рэдакцыі ўлічваць перш за ўсё эканамічныя і палітычныя паслядоўнасці ўсялякай публіцыстыкі. На этыку працы не застаецца шмат месца. Тамy дарма чакаць каментарыяў, напрыклад, у „Газеце выбарчай", якія тлумачылі б сутнасць югаслаўскага канфлікту. **(ям)**



Фота Багуслава СКОКА („Кур'ер паранны")

# Наш расколаты крыж яднаюць плечы Хрыстовы

Ганна КАНДРАЦЮК

Драгічын. 10 чэрвеня, дзень пабыўкі рымскага папы Яна Паўла II на Падляшшы. Трэцяя пасля поўдня. Разам з паломнікамі крочу назначанымі вуліцамі горада. Бліжэй месца набажэнства могуць пад'ехаць адно ксяндзы, інваліды, палітыкі і журналісты. Драгічын невялікі. Тут усяго ніцэльня тры тысячы жыхароў. Па вуліцы Вялікага Князя Вітаўта рухаецца бясконцая калона паломнікаў. Спераду дзяўчынкі ў белых камунійных сукенках. У руках многіх матуль вяночкі зёлак. Пасля асвячэння, як вераць на Падляшшы, зёлкі ўсцерагаюць ад злых моцаў. Хвацкім крокам маршыруюць пажарнікі. За імі ветэраны, скаўты, сяляне, школьная моладзь, рассяваны парафіянкі. Маладзёны з Беластока каменціруюць святочны воблік краіны: „Papież i tak nie zobaczy prawdziwej Polski. Wszystko przebajerzone... że mucha nie siada". Фактычна, Драгічын падрыхтаваўся на прыезд Яна Паўла II. Новыя асфальты, чырвоныя тратуары з дробнай косткі-польбруку, яркія кветкі ў агародчыках. У вокнах партрэты папы, ватыканскія, касцельныя і польскія сцягі на слупах ліхтароў. Калона паломнікаў штораз разліваецца на ўсю шырыню дарогі. — На левы бок! — камандуе ахова ў жоўтых каптанах. Справа пераціскаецца машына з цёмнымі шыбамі. Валэнса паехаў! — апавяшчаецца ў калоне. Жонка першага прэзідэнта III РП — родам ад Сакалова-Падляшскага.

**Беларусь вітае і чакае!**

Уваход на плошчу, дзе будзе набажэнства не просты. Парадкавыя службы правяраюць змесціва сумак. Кожны паломнік павінен трапіць у адпаведны сектар на плошчы агароджанай тоўстымі жэрдкамі. Гаворыцца пра сто пяцьдзесят—двесце тысяч народу. У паветры стаўбы пылу. У адным сектары віднее палотнішча *Białoruś wita i czeka Ojca Świętego*.

— Пабачыць святога айца — мая мара жыцця, — кажа маладая паломніца Антоля з Брэста. — Да, — ківае галавой сябра дзяўчыны, Валерка, таксама з Брэста. — Для нас, палякаў, Святы Айцец — самы Вялікі Чалавек. Каб жа ж наш прэзідэнт запрасіў яго ў Беларусь! — А дзе ён запросіць, — хвалюецца смуглявая цётка ў хустачцы. — Ён нават Каляды і Вялікдзень не даў адсвяткаваць як след, на працу пагнаў. — Да, — падтаквае пан Валерка. — Он жэ праваслаўны атэіст. — Мой субяседнік хоча натхніцца ў Польшчы надзеяй. — Здорава *паабшчацца* з братамі-палякамі, — кажа на развітанне. Пазней паломнікі з Беларусі падымуць таксама беларускамоўны лозунг: *Беларусь вітае і чакае Святога Айца*. У Драгічыне не было, як у Седльцах, бел-чырвона-белых сцягоў.

**Супольны падляшскі дом**

Экуменічнае набажэнства з ініцыятывы папы Яна Паўла II невыпадкова служылася ў Драгічыне, гістарычным сэрцы Падляшша. На зямлі, дзе пралівалі кроў усе народы, што стваралі гэты супольны падляшскі дом. Зараз у самым Драгічыне пераважаюць каталікі, але ў маштабе дыяцэзіі праваслаўныя становяць значную колькасць, блізка 40 працэнтаў. У горадзе каталіцкія цэнтры: Вышэйшая духоўная семінарыя, катэдра, францішканскі манастыр.

Праваслаўная парафія налічвае да тысячы вернікаў. У 1985 годзе царква св. Мікалая адзначала 900-ю гадавіну свайго існавання. Найбольшы ўздым праваслаўя выпадае на XV ст., калі

[працяг ☞ 3]

## Беларус — значыць, псіхічнахворы

Хапіла пяць гадоў панавання лукашызму, а дзяцей, якія не ведаюць рускай мовы, а толькі беларускую, школьныя лекары пачалі лічыць псіхічнахворымі. Беларуская мова прытым з'яўляецца ў Беларусі, прынамсі фармальна, адной з дзяржаўных моў. Ні пры Сталіне, ні пры Машэраве тэмпы знішчэння беларускага нацыянальнага жыцця не паскараліся так, як гэта адбываецца сёння.

[болей ☞ 4]

## Крок да шчасця

Адчуваю сябе як творца, якога людзі ўспрымаюць добразычліва. „Лідэр" лічыцца ў Польшчы адным з лепшых калектываў disco-polo. Шчасця я шукаю ў творчай працы, у новых кампазіцыях. Цяпер я выдаю касету з музыкай на акардэон, з уласнымі мелодыямі і імправізацыяй папулярных мелодый. Працую над другой сваёй касетай. Там будуць песні, якія мы спяваем з маім 8-гадовым сынам. Я думаю, што ўсё гэта — маленькі крок да шчасця.

[інтэрв'ю з Генадзем Шэметам ☞ 5]

## Асвячэнне крыжоў

У прыходзе Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы 6 чэрвеня г.г. адбылося асвячэнне 18 крыжоў, якія завяршаюць купалы новабудаванай царквы. На багаслужбу прыехалі не толькі гайнаўляне з суседніх прыходаў, але і людзі з навакольных вёсак. Літургію ўзначаліў мітрапаліт Сава.

[шырэй ☞ 9]

## Музыкай сплецены жыцці

А мяне ў 1942 годзе забралі на работы ў Прусію, у Кёнігсберг. Там я працавала на кухні. У горадзе была байдарачная прыстань. Нямецкія салдаты выплывалі некалькімі байдаркамі на мора, а адна немка іграла ім на акардэоне. І тады я падумала: калі дасць Бог і я вярнуся дадому, абавязкова навучуся ў бацькі іграць!

[успаміны ☞ 10]

## Прафанацыя могільніка

31 мая на разбураны могільнік прыехалі дзве камісіі. Спецыялісты сцвердзілі, што далей вядзецца здабыча жвіру, а ў раскапаных магілах відаць раструшчаныя землечарпалкай косці. Згодна пратаколу, войт мае тэрмінова паведаміць ваяводскія ўлады аб прынятых мерах па забеспячэнні археалагічнага помніка.

[апашленне ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Магчыма, што беларусы накармілі расіян дыяксінам

Скандал з выяўленнем небяспечнага для здароўя чалавека рэчыва дыяксіну ў мясе бельгійскіх курэй закрануў і Беларусь. Незалежная газета „Навіны" 9 чэрвеня паведаміла пра ўвоз у краіну 368 тон курынага мяса з Бельгіі. Праз тыдзень гэтая інфармацыя была пацверджана дзяржаўным тэлебачаннем.

Згодна з гэтымі паведамленнямі на пачатку года 280 тон бельгійскай курацiны прывезла ў Беларусь брэсцкая фірма „Інка", яшчэ 88 тон прадпрыемства „Гродфуд" з Гродна. Аднак, нават калі тое мяса і змяшчала ў сабе дыяксін, пераважная большасць яго патрапіла на сталы расіян, а не беларусаў.

Уся прывезеная курацiна была перапрацавана на сасіскі, якіх атрымалася аж 752 тоны. З іх у Беларусі засталося 32 тоны 200 кілаграмаў. Астатнія былі прададзены ў Расію.

Зараз дзяржаўнай ветэрынарнай інспекцыяй забаронена ўвозіць у Беларусь мяса птушак і свініну з Заходняй Еўропы. У выніку на польска-беларускай мяжы накапілася шмат аўтамабіляў загружаных мясам. Што з ім рабіць — не вядома. Магчыма яно цалкам прыдатнае для яды, але ў Беларусі няма прэпаратаў і адпаведных лабараторый, каб гэта спраўдзіць.

**Зміцер Кісель**

## А. Лукашэнка навучыў як касіць

16 чэрвеня г.г. беларускі прэзідэнт сабраў нараду, на якую былі выкліканы кіраўнікі ўсіх абласцей краіны. Нагодай для гэтага стала катастрафічнае становішча з нарыхтоўкай сена ў калгасах.

Як прыхільнік калгаснай сістэмы і планавай эканомікі, Аляксандр Лукашэнка надоўга да пачатку касьбы вызначыў дзе, калі і колькі сена павінны накасіць калгаснікі. Аднак яго „стратэгічны" план праваліўся. Па вестках, якія на нарадзе агучыў сам прэзідэнт, па стане на 15 чэрвеня апрацавана толькі 23% сенажаці ад запланаванай. Нарыхтавана 6% сена. Але нават гэтыя лічбы не выклікаюць даверу. „Добавте к этому те приписки, которые сегодня процветают в хозяйствах нашей республики", — сказаў А. Лукашэнка. Ён добра ведае, што кіраўнікі гаспадарак, баючыся пакарання за нявыкананы план, нярэдка дабаўляюць да лічбаў рэальных паказчыкаў выкананай работы некалькі нулёў.

Прэзідэнт не хацеў слухаць ніякіх апраўданняў і спасылак на кліматычныя ўмовы. „Про погодные условия прошу мне не рассказывать, — папярэдзіў ён абласных кіраўнікоў. — Я знаю какая погода в Белоруссии не хуже вас". А. Лукашэнка лічыць, што прычына невыканання плана — нядбайнасць мясцовай „вертыкалі". Як і на ўсіх папярэдніх сходах, незалежна па якім пытанні яны збіраліся, па прамысловым, фінансавым, сельскагаспадарчым, А. Лукашэнка сказаў свае сакраментальныя словы: „Так дальше работать нельзя". Аднак на гэты раз прэзідэнт не абяцаў нікому „надеть наручники". Ён толькі папярэдзіў, што для кіраўнікоў абласцей „стратэгічнай задачай" з'яўляецца заканчэнне нарыхтоўкі сена за 10 дзён да жніва. На думку прэзідэнта, збіраць ураджай сёлета трэба значна раней чым у мінулыя гады. „Нам напрягаться надо будет, ой как напрягаться. Никто ещё так не напрягался в последние годы, как то, что нам предстоит сделать в этом году", — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

**Зміцер Кісель**

## Рэха Дня закаханых

11 чэрвеня ў Мінскім гарадскім судзе закончыўся разгляд крымінальнай справы па абвінавачванні ў арганізацыі парушэнняў грамадскага парадку намесніка старшыні Маладога фронту Яўгена Скочкі.

Хлопец апынуўся на лаве падсудных за несанкцыянаванае шэсце моладзі да замежных амбасад 14 лютага гэтага года. Адразу пасля Дня закаханых ён быў пасаджаны за краты на 10 сутак. Але, відаць, некаму здалося, што гэтага мала. Супраць маладога апазіцыйнага актывіста была ўзбуджана крымінальная справа. Пракурор Уладзіслаў Чырын абвінаваціў Я. Скочку ў арганізацыі і актыўным удзеле ў групавых дзеяннях, якія парушылі грамадскі парадак і папрасіў у суда пакарання маладафронтаўцу ў выглядзе пазбаўлення волі на два гады з адтэрміноўкай.

Суддзя Валерый Камісараў задаволіў просьбу пракурора напалову і прыгаварыў Я. Скочку да аднаго года турмы з адтэрміноўкай на той жа тэрмін. Калі на працягу года намеснік старшыні Маладога фронту будзе затрыманы за любое парушэнне існуючага ў Беларусі заканадаўства, ён адразу патрапіць за краты.

**Зміцер Кісель**

## Памёр Сымон Шаўцоў

Нядаўна ў нашу рэдакцыю прыйшла сумная вестка, што ў горадзе Сіднеі ў Аўстраліі памёр наш чытач і карэспандэнт Сымон Шаўцоў. Генеральны сакратар Асацыяцыі беларусаў Аўстраліі Алесь Алехнік напісаў нам:

„Зь вялікім сумам і душэўным болем прыводжу да ведама Вам і ўсяго беларускага грамадзтва, што ў суботу, 9 траўня 1999 г. памёр у г. Сыднэй, Аўстралія, доўгагадовы сябра нашай арганізацыі, грамадзкі дзеяч, журналіст, пісьменьнік і непахісны прыхільнік ідэі незалежнасьці Беларусі, сп. **Сымон Шаўцоў**.

Паховіны адбыліся ў сераду, 12 траўня, на могілках Пайнгроў (Pinegrow) недалёка той хаткі, якую пакойнік сам, сваімі рукамі збудаваў, дзе выгадаваў сваіх дзетак і ў якой сам пражыў амаль 50-т гадоў у Сыднэйскім прадмесці Руты Гіл (Rooty Hill).

Я асабіста, былы доўгагадовы Сакратар і Скарбнік нашай арганізацыі, Сп. Міхась Ціхан, разам з усімі другімі беларусамі, каторыя мелі нагоду пазнаць і супрацоўнічаць зь Ім, нізка схіляем свае галовы перад магілкай Сьв. П. Сымона Шаўцова і запэўняем Яго, што мы заўсёды будзем успамінаць Яго добрым словам і вялікай пашанай!

Вечная і Заслужаная Яму Памяць!!!"

# Навіны Радыё 101,2

**Пра паўнамоцтвы прэзідэнта**

Сацыялагічная служба „Люстэрка" кампаніі БелаПАН правяла даследаванне, падчас якога дарослым жыхарам Мінска было прапанавана адказаць на пытанне, калі заканчваюцца паўнамоцтвы Аляксандра Лукашэнкі на пасадзе прэзідэнта Беларусі — у 1999 ці 2001 годзе. 42% рэспандэнтаў лічаць, што паўнамоцтвы прэзідэнта заканчваюцца ў 2001 годзе. Крыху меншая колькасць апытаных — 38% — выказаліся за 1999 год. Астатнія 19% не змаглі адказаць. Што да пытання, за каго б мінчукі аддалі свой голас сёння, 28% рэспандэнтаў заявілі, што не бачаць вартых кандыдатаў, 20% — не змаглі адказаць, па 9% заявілі, што не пойдуць на выбары ці прагаласуюць супраць усіх. Сярод названых кандыдатаў на пасаду кіраўніка дзяржавы лідзіруе Лукашэнка — 23%. 4% назвалі Пазьняка і 3% — Чыгіра. Па 1% рэспандэнтаў назвалі Шушкевіча і Ярмошына. Рэйтынг выбарнасці прэзідэнта Лукашэнкі сярод мінчукоў узняўся ў параўнанні з другой дэкадай красавіка 1999 г. на 13%. Рэйтынг Чыгіра ўпаў на 2%, а Пазьняка — на 1%. З палітычнага Алімпу знікла кандыдатура Ганчара і ўзнікла фігура старшыні Мінгарвыканкама Ярмошына.

**Знік вядомы акцёр Андрэй Бубашкін**

Канфедэрацыя творчых саюзаў і культурных фондаў Беларусі звярнулася да амбасадараў Нямеччыны і Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Хорста Вінкельмана і Мар'юша Машкевіча з просьбай пасадзейнічаць у пошуках папулярнага беларускага акцёра Андрэя Бубашкіна. Ён знаходзіўся на гастролях у Нямеччыне і выехаў адтуль 30 мая на сваім асабістым аўтамабілі. З таго часу месца яго знаходжання невядома. Працяглая адсутнасць акцёра, як адзначаецца ў звароце Канфедэрацыі, дае падставу лічыць, што на тэрыторыі Нямеччыны альбо Польшчы з ім адбыліся нейкія надзвычайныя здарэнні, пра якія мясцовым уладам невядома.

**Яшчэ адна ахвяра трагедыі на станцыі „Няміга"**

Жахлівая трагедыя, якая адбылася ў падземным пераходзе станцыі метро „Няміга", пацягнула за сабой яшчэ адну смерць — 53-ю. У пятай клінічнай бальніцы горада Мінска памёр 19-гадовы навучэнец сталічнага прафтэхвучылішча № 23 Сяргей Саладкевіч. Нягледзячы на старанні доктараў, Сяргей так і не выйшаў з непрытомнага стану — усе гэтыя дні ён перабываў у глыбокай коме. Малады чалавек пахаваны ў вёсцы Люціна Валожынскага раёна. Паводле звестак на 16 чэрвеня, у бальніцах Мінска знаходзяцца 66 пацярпелых у выніку трагедыі. Крыніца ў Міністэрстве ахоўы здароўя паведаміла, што стан аднаго з іх ацэньваецца як вельмі крытычны.

**Першы гіпермаркет**

Напрыканцы 2000 года ў раёне праспекта Дзяржынскага ў Мінску будзе пабудаваны першы ў Беларусі гіпермаркет – гандлёвы цэнтр, які будзе сумяшчаць функцыі магазіна і аптовага складу. Заказчыкам будаўніцтва выступіла замежнае прадпрыемства „IK for Shops" (Польшча), праектную дакументацыю рыхтуе інстытут „Мінскпраект". Як паведаміў БелаПАН галоўны архітэктар „Мінскпраекта" Уладзімір Тарноўскі, агульная плошча гіпермаркета складзе звыш 50 тысяч квадратных метраў. Гандлёвая зала па продажу харчовых тавараў зойме 10 000 квадратных метраў, столькі ж – прылеглыя да яе галерэі з крамамі па продажу прамысловых тавараў, больш за 25 000 квадратных метраў – аўтастаянка на 1 160 месцаў. Апрача таго, наведвальнікі змогуць пакарыстацца паслугамі пошты, цырульні, банка, кафэ, піцэрыі і дзіцячага пакою для гульняў. Паводле Тарноўскага, кошт тавараў у гіпермаркеце будзе на трэць ніжэй, чым у звычайным магазіне. Гэта стане магчымым дзякуючы велізарнаму таваразвароту гіпермаркета (да 100 000 наведванняў у дзень). Пачатак будаўніцтва запланаваны на вясну 2000 года.

**Прапануюць прыпыніць паўнамоцтвы кіраўніцтва БНФ**

Удзельнікі гродзенскай абласной справаздачна-выбарчай канферэнцыі Беларускага народнага фронту „Адраджэнне", якая адбылася 14 чэрвеня, прынялі зварот да Сойму БНФ. Яны патрабуюць прыпыніць паўнамоцтвы прадстаўнікоў кіраўніцтва Фронту Сяргея Папкова і Анатоля Крыварота „ў сувязі з дэзарганізацыяй структураў БНФ шляхам аддання загадаў праз галовы кіраўнікоў абласных структураў у розныя арганізацыі аб выхадзе сяброў БНФ з камісіяў па выбарах прэзідэнта Беларусі". Намеснік старшыні абласной арганізацыі БНФ спадар Лемяноўскі паведаміў, што напярэдадні канферэнцыі група кіраўнікоў раённых суполак Гродзеншчыны мела ў Варшаве працяглую гутарку з лідэрам БНФ Зянонам Пазьняком.

*(Мінск, 14-18 чэрвеня 1999 года.)*

<u>Беларускія ўлады спаганяюць падатак за дабрачыннасць</u>

## Дзеянні супраць дзяцей Чарнобыля

Беларускі дабрачынны фонд „Дзецям Чарнобыля" атрымаў 1 чэрвеня, у Міжнародны дзень абароны дзяцей, пісьмо ад бурмістра нямецкага горада Плецкаў (зямля Саксонія) спадара Каўфмана. У ім ён інфармуе, што беларуская мытня стала патрабаваць, каб запрашаючы бок (г.зн. немцы) плацілі падатак у памеры 20 марак за кожны аўтобус, які перавозіць дзяцей на адпачынак у Нямеччыну.

Нямецкі бок арганізуе і фінансуе пабыўку дзяцей, а таксама іх перавоз на аздараўляльны адпачынак. „Але ж гэта непрымальна ў маральным плане спаганяць падатак за транспарт, калі другі бок бясплатна запрашае і вязе вашых дзяцей на адпачынак", — піша бурмістр. Ён таксама заўважае, што такія дзеянні ўлад выклікаюць адмоўнае стаўленне з боку запрашаючай краіны.

Спадар Каўфман лічыць, што кантроль на граніцы носіць форму здзеку і праводзіцца наўмысна павольна. Афіцыйныя дакументы, якія пацвярджаюць, што аказваецца гуманітарная дапамога, „сур'ёзна не ўспрымаюцца ні міліцыяй, ні мытняй". Бурмістр інфармуе ў сваім пісьме, што з-за такіх дзеянняў беларускіх улад на граніцы і з-за вялікіх бюракратычных выдаткаў было прынята рашэнне спыніць дапамогу Беларусі ў аздараўленні дзяцей.

*Белорусская газета, 7.06.1999 г.*

## Папраўка

Рэдакцыя просіць прабачэння за памылку, дапушчаную ў тэксце „Каб не змаўкалі іх песні" (нумар 24 ад 13 чэрвеня 1999 года). Ну, вядома ж, што меляшкоўскія самадзейніцы дваццацігоддзе калектыву даўно адсвяткавалі, а цяпер плануюць адзначыць дваццаціпяцігоддзе. У часе падрыхтоўкі газеты тое **-пяці**, на жаль, выпала.

# Наш расколаты крыж яднаюць плечы Хрыстовы

[1 ☞ працяг]
ў Драгічыне дзейнічалі манастыр, сем цэркваў, шпіталь, прытулак для бедных.

Сённяшнія вернікі праваслаўя рэдка карыстаюцца мовай продкаў. Асіміляцыі ў польскі бок спрыяе адсутнасць навучання роднай мове ў школах і беларускай інтэлігенцыі. Але на экуменічным набажэнстве гаварыліся толькі прыгожыя фразы, якія пазней гучна паўтаралі медыі. Як, на той прыклад, сказ епіскапа Антонія Дыдыча, гаспадара дыяцэзіі: „На гэтай зямлі зліваліся гукі званоў з каталіцкіх святыняў, праваслаўных цэркваў і пратэстанцкіх збораў, а мелодыі мінарэтаў злучаліся з псальмамі сінагогаў".

**Кахаем цябе... Alleluja**

Апошнія падрыхтоўкі. Пажарнікі паліваюць гравійныя дарогі паміж сектарамі. З-пад алтара плывуць рэлігійна-патрыятычныя дэкламацыі і спевы. Час ад часу ксёндз паппракае асавелы ад жары народ.

— Больш сэрца, больш энтузіязму, — уносіць заўвагі да выканання прывітальнага напеву пад загалоўкам „Kochamy Cię". Некалькі разоў гучыць аказійная песня ў стылі *крэсавай* балады „Драгічын, Драгічын" („Drohiczyn, Drohiczyn, jak dumnie nazwa ta brzmi, Drohiczyn, Drohiczyn hołd wielki składa Ci").



чыць праваслаўных палітыкаў, дзеячаў ці сарганізаванай групы вернікаў з бацюшкамі.

**Расколаты крыж хрысціян**

— Niech żyje Papież! Niech żyje Papież! — рытмічна ўскліквае натоўп. Ян Павел II праязджае паміж сектарамі ў папамобіле. Эйфарыя аўчарні. Мора бела-жоўтых, бела-сініх і бела-чырвоных сцяжкоў. Атмасферы падпарадкоўваюцца многія журналісты. У вачах слёзы радасці. Невыносная гарачыня прывітання. Праваслаўны і каталіцкія хоры спяваюць паводле Яна Святое Дабравесце. *Запаведзь новую даю вам, палюбіце адзін аднаго, як Я палюбіў вас, і вы палюбіце адзін аднаго.* Ян Павел II вітае сабраных, вітае праваслаўнае духавенства і вернікаў. Цёплыя словы кіруе ў адрас паломнікаў з Беларусі.

— Адчыніце дзверы сваіх сэрц і душ! — наказвае. — У новым тысячагоддзі нам неабходнае зразуменне, любоў і еднасць.

Мітрапаліт Сава таксама гаворыць пра паяднанне і адкрыццё на іншасць культуры, мовы, рэлігіі. Паломнікі не шкадуюць гучных апладысментаў праваслаўнаму іерарху.

Над галовамі сімвалічны алтар завершаны расколатым крыжам. — Ён расколаты, але не распадзецца. Ядна-

**Добра, што аб вялікай справе экуменізму гаворым менавіта ў Драгічыне, сэрцы Падляшша, дзе ад стагоддзяў сустракаюцца хрысціянскія традыцыі Усходу і Захаду. Гэты горад заўсёды быў адкрыты на католікаў, праваслаўных і пратэстантаў. Ёсць, аднак, многа момантаў у гісторыі гэтай зямлі, якія мацней чым у іншым месцы падкрэсліваюць патрэбу дыялогу ў імкненні да адзінства хрысціян. У энцыкліцы *Un unum sint* я падкрэсліў, што „дыялог (...) — натуральны сродак, які дазваляе параўнаць розныя пункты гледжання, а перш за ўсё прааналізаваць тыя разыходжанні, якія ствараюць перашкоду для поўнай супольнасці паміж хрысціянамі". Гэты дыялог павінен вылучацца любоўю да праўды, паколькі „любоў да праўды — самае глыбокае вымярэнне аўтэнтычнасці імкнення да поўнай супольнасці паміж хрысціянамі. Без гэтай любові нельга аказваць супраціўленне аб'ектыўным экуменічным, культурным, псіхалагічным і грамадскім складанасцям, якія ўзнікаюць падчас абмеркавання існуючых адрозненняў. З гэтым унутраным і асабовым вымярэннем мусіць спалучацца дух любові і пакорнасці. Любові да суразмоўцы і пакорнасці ў адносінах да праўды, якая адкрываецца і якая можа патрабаваць змены поглядаў і пазіцый".**

**Хай тады любоў будуе масты паміж нашымі берагамі і заахвочвае нас рабіць усё, што толькі магчымае. Хай узаемная любоў і любоў да праўды будуць адказам на складанасці і ўзнікаючыя часам напружанні.**

**Звяртаюся сёння да сясцёр і братоў усіх Цэркваў — адкрыймася на прымірэнчую любоў Бога. Адкрыйма дзверы нашых розумаў і сэрцаў, Цэркваў і Супольнасцей. Бог нашай веры, Той, якога клікаем як нашага Айца, гэта „Бог Аўраама, Ісаака, Іакава"; гэта Бог Майсея, а перш за ўсё Бог і Айцец нашага супольнага Госпада — Ісуса Хрыста, у якім стаў Ён „Богам з намі".**

**Прыпаднесьма нашаму Айцу, Айцу ўсіх хрысціян наш дар шчырай волі прымірэння. Хай будзе гэта дар канкрэтных дзеянняў. Адкажма Богу, „які ёсць любоўю", нашай людской любоўю, якая глядзіць на іншых прыхільна і аказвае шчырую прагу супрацоўніцтва ўсюды там, дзе гэта магчымае, і дазваляе ацаніць тое, што добрае і што заслугоўвае пахвалы і пераймання.**

***З прамовы папы Яна Паўла II падчас экуменічнага набажэнства ў Драгічне 10 чэрвеня 1999 г.***

**Дух сапраўднага прымірэння патрабуе ад нас, каб мы змагаліся з эгацэнтрычным індывідуалізмам перакананыя ў тым, што розніцы — гэта дар, які дапамагае нам адкрываць незвычайную разнароднасць непаўторнага стварэння Божага. Прымірэнне — складаны духовы высілак, які патрабуе ўмеласці ўзаемаразумення, талерантнасці, адкрыцця, часта адмаўлення, а перш за ўсё ўзаемнай пашаны. Шкада, што ў нашай краіне так мала гэтых дароў. Не хапае зразумення і сапраўднай дружбы Цэркваў. Адзінства менавіта магчымае толькі ў разнароднасці, у прыняцці дароў Святога Духа, якімі карыстаецца кожны веруючы ў Бога.**

**Мы ведаем, што праваслаўна-каталіцкі дыялог апынуўся ў крызісным становішчы. Вельмі слушнае пытанне ставіць адзін з вядомых польскіх экуменістаў. Пытаецца ён: „Ці ў Польшчы маюць узнікаць усе пагрозы для яго працягвання? Мы ж здаем экуменічны экзамен на вачах свету". Сапраўды, ад нашай экуменічнай пазіцыі тут і цяпер залежыць праваслаўна-каталіцкі і кожны іншы дыялог. Ад гэтага, што зробім сёння, залежыць тое, ці нашы дзеці будуць нас сароміцца, ці мо з гордасцю гаварыць аб нас як аб міратворцах.**

**Сёння, у складаны і неспакойны час, больш чым калі-небудзь неабходнае нам экуменічнае наварненне. Не боймася іншага погляду на Божую праўду. Адкіньма неадпаведныя стэрэатыпы. Тычыцца гэта епіскапаў, святароў і вернікаў. Супольным намаганнем можам зрабіць многае. Канчатковае рашэнне залежыць ад самога Бога, паколькі толькі Ён з'яўляецца Госпадам нашай Царквы. Нельга ведаць канчатковы вынік, канкрэтную дату ажыццяўлення нашых намераў. Гэтае ведае толькі Бог. Аднак нішто не перашкаджае нам даваць супольнае сведчанне і ажыццяўляць супольныя ўсім нам ідэалы Евангелля. Асабліва ў грамадскім аспекце, у нашым штодзённым жыцці з'яўляецца гэта проста неабходнасцю. Нічога затым дзіўнага, што сённяшнія відныя экуменісты хадайнічаюць аб гэтым.**

**Адзінства патрабуе не толькі падзеленае хрысціянства, але і ўсё чалавецтва.**

***З прамовы мітрапаліта Савы падчас экуменічнага набажэнства ў Драгічыне 10 чэрвеня 1999 г.***

— Czy są tu jacyś prawosławni? — дапытваюцца журналісты ў аховы з сотавымі тэлефончыкамі.

— Ёсць крыху, — паказваюць на праваслаўны хор з сабора святога Мікалая з Беластока.

За алтаром чакае ўжо праваслаўны мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава. Ёсць кіраўнік Польскай экуменічнай рады біскуп Ян Шарэк і старшыня Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання Ян Сабалеўскі. Насупраць, на мяккіх крэслах у першым радзе найбольш ганаровыя паломнікі — прэм'ер-міністр Ежы Бузэк, экс-прэзідэнты Рышард Качароўскі і Лех Валэнса з жонкай і цешчай, маці ксяндза Ежы Папялушкі, маршалак сената Аліцыя Гжэськовяк. Ёсць і беластоцкая вярхушка. Юзэф Мазалеўскі ў кампаніі Мар'яна Кшаклеўскага працiскаецца да паломнікаў. Махае ім рукой, вітае. Не пашчасцілася паба-



юць яго плечы Хрыстовы ды рыбацкая сетка, — заверыць епіскап Дыдыч і скажа добрыя словы праваслаўным. — У мінулым годзе прымалі тут Найдастойнейшага Варфаламея І, патрыярха Канстанцінопаля. З удзячнасцю ўзгадваю яго прысутнасць. Крыж, які сёння нашу, гэта ягоны дар.

**Bardzo was lubię**

Ужо ў зваротнай дарозе сустракаю паломніка з адкрытым сэрцам. — Dlaczego nie jest pani Polką prawosławną? — дапытваецца пан Генрык, выкладчык беластоцкай вышэйшай установы. Паляк з крыві і косці, як сябе называе. Талкую пра беларускасць.

— To pani jest od tego Sokrata Janowicza, — каментуе мой спадарожнік і дадае: — Jak wszyscy jesteście jak on, to bardzo was lubię.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Нечарговы з'езд АБЖ

13 чэрвеня г.г. праводзіўся нечарговы з'езд Асацыяцыі беларускіх журналістаў у РП, выдаўца „Часопіса". Выбраны на ім новыя ўлады і ўведзены змены ў статуце. У Галоўную ўправу выбраны: Славамір Іванюк (старшыня), Вячаслаў Харужы (намеснік), Яраслаў Іванюк (скарбнік), Ганна Кандрацюк і Юры Каліна (члены); у Рэвізійную камісію: Лена Глагоўская (страшыня), Юрка Сульжык (намеснік), Марк Моцька; у Галоўны журналісцкі суд: Ада Чачуга (старшыня), Яўген Мірановіч і Юры Хмялеўскі. Пасля дыскусіі (дзеля дэмакратызацыі) уведзены наступныя змены ў статуце: выбар і адкліканне галоўных рэдактараў часопісаў выдаваных АБЖ належыць З'езду, а зацвярджаецца Галоўнай управай пераважнаю колькасцю галасоў. Членаў рэдакцыяў часопісаў, выдаваных АБЖ, на прапанову галоўнага рэдактара зацвярджае Галоўная ўправа пераважнаю колькасцю галасоў.

Пасля галасавання на галоўнага рэдактара „Часопіса" выбраны і зацверджаны Юры Хмялеўскі, які забавязаны зэрэфармаваць працу ў рэдакцыі і выдаць да канца 1999 года замаруджаныя па розных прычынах кніжныя выданні (зборнік-плён двух конкурсаў рэпартажаў пра Беласточчыну і кнігу-інтэрв'ю „Kto się boi Sokrata Janowicza?").

**Міра Лукша**

*Фота Ганны Кандрацюк*



*Дзеля дэмакратызацыі ўводзяцца новыя прапановы (Л. Глагоўская і В. Харужы).*

# Беларус — значыць, псіхічнахворы

Лукашысты ў працэсе русіфікацыі Беларусі дайшлі ўжо да нейкага абсурду. Нават у царскай Расіі, у якой беларусы не прызнаваліся як нацыя, не аспрэчваўся факт, што пару мільёнаў людзей гаворыць на беларускай мове. Таму, напрыклад, царская прапаганда падчас студзеньскага паўстання 1863-64 гг. карысталася ў друку беларускай мовай, зразумелай для насельніцтва. Дарэчы, самі расіяне, якія на працягу доўгага перыяду акупацыі Беларусі кіравалі гэтай краінай, ніколі не праяўлялі столькі энергіі ў галіне русіфікацыі як выхаваныя імі мясцовыя рэнегаты беларускага паходжання. Найбольшым русіфікатарам быў несумненна беларус Пётр Машэраў. Падчас яго панавання ў якасці І сакратара Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі былі ліквідаваны амаль усе беларускія школы, а нацыянальнае жыццё — звезданае амаль да нуля.

Правячы сёння Беларуссю палкоўнік савецкага КДБ Аляксандр Лукашэнка мае больш складаную місію. Уладу пераняў пасля чатырох гадоў нацыянальнага ўздыму. Чатыры гады на дзяржаўных аб'ектах лунаў бел-чырвона-белы сцяг, з'явіліся пашпарты з Пагоняй. Беларусь як самастойная дзяржава запамяталася перш за ўсё маладому пакаленню. Таму для ўдзельніцтва ў знішчэнні нацыянальнага жыцця ў Беларусі Лукашэнкам былі запрошаны самыя цынічныя асобені як Ціцянкоў, Шэйман, Замяталін, Антановіч і сотні іншых. Невядома нават якой яны нацыянальнасці. Дарэчы, невядома таксама якой нацыянальнасці сам Лукашэнка. Вядома толькі, што ўсе яны ненавідзяць беларушчыну.

Хапіла пяць гадоў панавання лукашызму, а дзяцей, якія не ведаюць рускай мовы, а толькі беларускую, школьныя лекары пачалі лічыць псіхічнахворымі. Беларуская мова прытым з'яўляецца ў Беларусі, прынамсі фармальна, адной з дзяржаўных моў. Ні пры Сталіне, ні пры Машэраве тэмпы знішчэння беларускага нацыянальнага жыцця не паскараліся так, як гэта адбываецца сёння. У сталіцы Беларусі зноў няма ніводнай школы, у якой навучанне вялося б на роднай мове. Акупацыя ўнутранымі сіламі аказалася нашмат горшай формай чужога панавання чым салдаты, паліцыянты і ўраднікі прысланыя з суседняй краіны. Яна адбірае душу без болю, таму не выклікае абарончых інстынктаў.

**(ям)**

# „Народны альбом" у Польшчы

У маі г.г. перад варшаўскай публікай у Малым тэатры выступіла група беларускіх творцаў і выканаўцаў, якія прэзентавалі маламестачковы фальклор польска-беларускага міжваеннага пагранічча. Гісторыя ўзнікнення спяванага імі „Народнага альбома" вяжацца з першым маніфестам мінскіх „Тутэйшых" — нефармальнай літаратурнай групы — аб'ўленым яшчэ ў 1987 г., калі гэты факт у тадышняй савецкай рэчаіснасці быў незвычайнай з'явай, паколькі ўпершыню група творцаў адназначна выказалася за аўтаномную нацыянальную свядомасць, падкрэсліваючы змену сваёй перспектывы: з імперыяльнай на правінцыяльную. Вяртанне да творчасці на беларускай мове было для іх знакам таго, што беларусы з гэтага часу мелі стаць паўнапраўным народам, а не толькі рускамоўным насельніцтвам дадзенай тэрыторыі.

Музычны бок „Народнага альбома" нагадвае некаторыя варшаўскія — і хіба не толькі — вакальна-музычныя калектывы, напрыклад „Швагеркаляску" з яе даваеннымі песнямі Станіслава Гжэсюка спяванымі на сучасны рокавы лад. Аднак кожная з 27 песень (на месцы можна было купіць касету) прэзентуе сабою свой стыль. У іх ліку маем рускія песні (на манеру У. Высоцкага ці Б. Акуджавы), а таксама польскія, нямецкія і яўрэйскія, аргенцінскія танга і цыганскія рамансы, полькі, застольныя песні і ваенныя маршы з перавагай, аднак, беларускага фальклору — у рамках якога апынуўся твор „Юзік", выкананы ў стылі рап. Ва ўсім спектаклі многа настальгіі і гумару, якім зіхацеў канферанс Алега Каранькова, а таксама самаіроніі і многіх намёкаў на сучасную сітуацыю.

Паколькі беларуская культурная і нацыянальная традыцыя ўсё яшчэ фармуецца, таксама пры актыўнай падтрымцы гуртоў „Уліс", НРМ, „Новага неба" ці "Крыві", „Народны альбом" — моцны голас у спрэчцы на тэму: ці ёсць які-небудзь сэнс у існаванні незалежнай Беларусі? (асабліва ва ўмовах інтэграцыйнай пазіцыі яе цяперашняга прэзідэнта). Такім чынам „Народны альбом" набывае антыпрэзідэнцкі характар, а мінулае становіцца свайго роду ключом да сучаснай ідэі „Каралеўства Беларусі" — краіны людзей, якія намагаюцца **аднавіць сваю нацыянальную і гістарычную тоеснасць**, ажыццявіць насуперак усяму беларускую утопію.

Прапагандаваны артыстамі міф свабоднага пагранічча, мабыць, стане крыніцай узбагачэння не толькі сваёй культуры, але і гістарычнай ды геапалітычнай свядомасці сваіх суседзяў. Энтузіястычны прыём „Народнага альбома" маладой публікай абнадзейвае, што гэтак будзе!

**(мз)**

# Палітычная кавярня

Праект закона аб нацыянальных меншасцях з'яўляецца першай вельмі сур'ёзнай спробай выпрацоўкі польскай палітыкі ў дачыненні да нацыянальных меншасцей у краіне. Рыхтуецца ён ад шасці гадоў — пасля першага чытання ў Сейме 150 паслоў прагаласавала за тое, каб праект адкінуць, а 230 — за скіраванне ў камісію нацыянальных і этнічных меншасцей. Праціўнікі гэтага юрыдычнага акта аргументуюць, што Польшча заўжды была талерантнай краінай і патрэбнасці ў такім законе няма. Сцвярджаюць таксама, што найперш трэба ўвесці прынцып узаемнасці, — як палякам у замежжы, так мы меншасцям у Польшчы, — а затым думаць пра адмысловыя законы. Прыводзіцца яшчэ і аргумент, сэнс якога „чаго яшчэ гэтыя меншасці хочуць". Абаронцы закона аргументуюць, што Польшча неабавязкова ўяўляецца талерантнай краінай ды ёсць сэнс сабраць у адзін юрыдычны акт камплект палажэнняў, якія цяпер расцярушаныя па розных нарматыўных дакументах. Несумненнае адно — пытанне названага закона будзе адным з найвялікшых выпрабаванняў „еўрапейскасці" польскіх палітычных элітаў. Краіны-члены Еўрапейскага Саюза з праблемай такой справіліся. Польшчы таксама трэба знайсці „гжэчнае" і элегантнае вырашэнне.

Узнікае тут яшчэ ўражанне, што грамадская свядомасць няўхільнасці нейкай развязкі апярэджвае свядомасць палітыкаў. 11 чэрвеня г.г. Дом культуры „Захэнта" ў Беластоку арганізаваў г.зв. палітычную кавярню, прысвечаную тэме нацыянальных меншасцей. Спісак запрошаных да дыскусіі асоб быў імпазантны — налічваў каля сарака чалавек: палітыкаў, дзяржаўных функцыянераў, дзеячаў. Фактычнае ж удзельніцтва ў мерапрыемстве аказалася вельмі слабенькім. На сустрэчу прыбылі: Ян Сычэўскі і Валянціна Ласкевіч (ад беларусаў), Станіслаў Станкевіч (ад ромаў) ды жменька журналістаў і публікі. Ліст з апраўданнем адсутнасці даслаў толькі пасол Сяргей Плева. Ваявода Крыстына Лукашук катэгарычна адмовілася ад сустрэчы, не называючы прычын.

У дыскусіі пра праект закона аб нацыянальных меншасцях Станіслаў Станкевіч сцвердзіў, што закон такі паставіў бы польскую палітыку ў дачыненні да меншасцей на адпаведнае ёй месца і ўзровень. Ян Сычэўскі звярнуў увагу, што многае залежыць ад форм ажыццяўлення літары закона ды выказаў думку, што закон гэты, калі быў бы нават ухвалены Сеймам, пераломy ці вясны не ўчыніць.

**Аляксандр Максімюк**

# На пераломе стагоддзяў

Пад такім лозунгам ад 4 да 6 чэрвеня г.г. у Белавежы арганізавана была Юрыдычным аддзяленнем Універсітэта ў Беластоку з удзелам Варшаўскага універсітэта навуковая канферэнцыя. У Белавежы сустрэліся прадстаўнікі розных асяроддзяў, каб абмеркаваць магчымасці грамадскага і культурнага развіцця ў будучым стагоддзі ў аспекце маралі, этыкі і суседскіх суадносін паміж нацыянальнасцямі. Разглядаліся таксама справы Белавежскай пушчы. Дакладчыкі гаварылі пра чалавека і яго суадносіны з дзяржаваю, а законы прыроды параўноўвалі з грамадскім жыццём.

— Усё, аб чым мы гаварылі, звязана было нейкім чынам з законамі прыроды. Я ў сваім дакладзе закрануў справы суадносін паміж рознымі нацыянальнасцямі, якія жывуць побач сябе, спасылаючыся на натуральныя законы пушчы. У выпадку Белавежскай пушчы нават плот паміж Польшчай і Беларуссю не змог раздзяліць яе і менавіта гэты закон можна выкарыстаць таксама і ў адносінах да розных нацыянальнасцяў. Звяртаў я ўвагу, што суседзяў не выбіраем, але добрыя суадносіны з імі, гэта ўжо нейкая філасофія і канцэпцыя звязаная з абмежаваннямі сваіх амбіцыяў і самалюбства. У гісторыі кожнай нацыі пераважаюць абвінавачанні суседзяў і ўсхваленне сваёй дабраты і сваіх пазітыўных прыкмет. І менавіта такія стэрэатыпы і самавольства трэба ліквідаваць. Паколькі я спецыялiст права ўзначальваю ў акраіне Белавежскай пушчы, адклікаўся таксама да суадносін паміж рознымі нацыянальнасцямі на гэтых землях, — кажа Эўгеніюш Кабатц, пісьменнік, генеральны сакратар Польскага аддзялення Таварыства еўрапейскай культуры (SEK). — У будучым стагоддзі не мусіць быць інакш чым у наш час. Дакладчыкі песімістычна ўказвалі на наша стагоддзе, поўнае войнаў, лютасці і канцлагераў. Аднак паявілася і надзея, што ў будучыні многае будзе вырашацца мірным шляхам, да чаго трэба імкнуцца. Думаем, што наша канферэнцыя з'яўляецца прадвесцем падобных сустрэч.

**Аляксей Мароз**

# Маленькі крок да шчасця



**З Генадзем ШЭМЕТАМ з вакальна-інструментальнага калектыву „Лідэр” гутарыць Ада Чачуга.**

***— Восем гадоў Вы прапрацавалі ў Віцебску і не на абы-якой пасадзе: музычны кіраўнік Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Ці варта было мяняць яе на пасаду лідэра „Лідэра” ў Беластоку?***

— Складанае пытанне. Там, працуючы ў тэатры, я пісаў музыку да спектакляў (у драматычным тэатры і ў тэатры лялек). Было гэтых спектакляў каля дваццаці. Я закончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю ў Мінску як баяніст і дырыжор, пасля адбыў войска і толькі тады прыйшоў у тэатр. Ад 1988 года я быў там дырыжорам і музычным кіраўніком. Я адразу ж вырашыў падацца другі раз у кансерваторыю. Я хацеў раскрыць сабе музыку з другога боку — і цяпер выбраў факультэт кампазіцыі ў Мінскай кансерваторыі, дзе вучыўся пад кіраўніцтвам славутага беларускага кампазітара Дзмітрыя Смольскага. Другі раз я закончыў кансерваторыю ў 1993 годзе.

***— Ці праца ў тэатры не давала Вам сатысфакцыі?***

— Давала, ды яшчэ якую! Я вельмі сумую па тэатры. Хто раз трапіў у тэатр, а пасля адышоў з яго, таго да канца жыцця гняце настальгія.

***— Дык ці варта было?..***

— Мноства прычын выклікала гэта. Па-першае, нарадзіўся мой другі сын Францішак. У хаце прыбыло клопатаў, а грошай усё менш. Па-другое, не ўдалося рэалізаваць свае творчыя планы. Супольна з Мікалаем Пінігіным (лібрэта) мы напісалі рок-оперу паводле Караткевічавай „Ладдзі роспачы” і ўсе яе хвалілі і абяцалі, што паставяць. Тым часам кіраўніцтва змянялася, творчыя сілы адыходзілі па розных прычынах. І наша опера засталася „пад сукном”.

Я быў расчараваны, на раздарожжы. А тут якраз дырэктар нарваўскага „Пронара” Сяргей Мартынюк запрапанаваў мне працу. Ён мяне ўбачыў на Фестывалі беларускай песні '95, я там быў рэжысёрам і дырыжорам.

Я — наогул аптыміст. Лічу, што сцежку да шчасця трэба шукаць. Дык рызыкнуў і прыехаў у Польшчу. Мне нават не было страшна, бо я ведаў, што еду да сваіх людзей. І праўду кажучы, мяне таксама тут лічаць сваім, хаця часам у Нарве я чую за плячыма: „О, рускі пошов!”

***— Як выглядала Ваша праца ў Нарве?***

— Я браў здольных дзяцей і ўводзіў іх у свет музыкі. Пры фабрыцы „Пронар” я стварыў тры калектывы ў розных узроставых групах. Выступалі мы ў школе, у нашай фірме, на розных гмінных урачыстасцях, на фэстынах, на фестывалі беларускай песні.

***— Ці падабалася Вам гэта праца?***

— Падабалася. Перад самым адыходам з „Пронара” я нават стварыў там маладзёжны аркестр біг-бэнда з духавымі інструментамі. Там я працаваў тры гады.

***— Цяпер Вы сканцэнтраваліся на працы ў калектыве „Лідэр”. З кім Вы выступаеце?***

— Мы выступаем утраіх. Янка Кавальскі (ён у нас з'яўляецца арганізацыйным кіраўніком) іграе на клавішных інструментах і спявае. Яго брат Мірэк Кавальскі — лідэр-вакаліст. Гэтыя хлопцы паходзяць з Крыўца. А я іграю на баяне, саксафоне, гітары ды спяваю.

***— Сёлета на фестывалі беларускай песні ў Беластоку „Лідэр” заняў другое месца ў катэгорыі эстрадных калектываў. Выконваў дзве песні Вашай кампазіцыі: „Яблынька” і „Вольныя дні”. І журы, і гледачам ваш калектыў вельмі спадабаўся. Як толькі на гала-канцэрце вы выйшлі на сцэну ў мундзірах — пачуліся апладысменты. Наш былы рэдактар Георгі Валкавыцкі быў вамі проста захоплены.***

— „Мундзіры” мы пазычылі ў Гайнаўцы з бару „У Валодзі”. Мірэк быў у чырвонай казацкай кашулі, я быў у гімнасцёрцы з пагонамі палкоўніка, а Янка выглядаў, як сапраўдны капітан карабля з гітарай. Якраз і тэкст песні „Яблынька”, якую мы спявалі на „галі”, адпавядаў нашым касцюмам.

***— Дзе выступае калектыў „Лідэр”?***

— Больш па-за межамі Беласточчыны, у цэнтральнай Польшчы, на Мазоўшы, на Мазурах, на Кашубах, ды ў іншых месцах.

***— Што вы спяваеце, які ваш рэпертуар?***

— Мы спяваем песні, напісаныя членамі нашага калектыву. Ужо вось выходзіць другая касета з гэтымі песнямі.

***— На якіх мерапрыемствах вы найчасцей выступаеце?***

— На самых розных. На фестывалях, фэстынах, даем канцэрты, а нават абслугоўваем вяселлі, імяніны і хрысціны. У Цехацінку, напрыклад, бярэм удзел у так званых сямейных пікніках: калектывы іграюць на эстрадзе, а іншыя слухаюць і адпачываюць. Мы не саромімся. Трэба ўмець іграць усё: сур'ёзную і лёгкую музыку. Як кажуць, пад ножку і да сэрца.

***— Цяпер Вы задаволены, ці надалей у пошуках шчасця?***

— Адчуваю сябе як творца, якога людзі ўспрымаюць добразычліва. „Лідэр” лічыцца ў Польшчы адным з лепшых калектываў disco-polo. Шчасця я шукаю ў творчай працы, у новых кампазіцыях. Цяпер я выдаю касету з музыкай на акардэон, з уласнымі мелодыямі і імправізацыяй папулярных мелодый. Працую над другой сваёй касетай. Там будуць песні, якія мы спяваем з маім 8-гадовым сынам Янкам. Я думаю, што ўсё гэта — маленькі крок да шчасця.

***— Дзякую за размову.***

# Кніга пра Сяргея Хмару



У мінулым годзе ў Вільні выйшла з друку кніга Андрэя Чэмера „Сяргей Хмара”. Пра яе ў Беларусі ніхто нічога не напісаў, акрамя „Газеты Слонімскай”, дзе быў змешчаны невялікі допіс пра гэтае выданне.

Я ўважліва прачытаў кнігу пра свайго земляка. Але перш чым выказаць уласную думку і расказаць, хто такі быў Сяргей Хмара (на здымку), хачу пазнаёміць чытачоў з яе аўтарам.

Андрэй Чэмер (сапраўднае прозвішча Аляксей Анішчык) нарадзіўся на Наваградчыне. Пасля заканчэння наваградскай гімназіі вучыўся на эканамічным факультэце Познаньскага універсітэта. Атрымаўшы дыплом магістра эканамічных навук, працаваў у псіхатэхнічным інстытутце ў Катавіцах (Горны Шлёнск). Кіраваў курсамі для інжынераў і тэхнікаў. У гады вайны працаваў у школе выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. З 1945 года працаваў у рэдакцыі газет у Кракаве, Вроцлаве, Шчэціне. У маі 1948 года быў арыштаваны органамі НКУС. Вярнуўся на Бацькаўшчыну ў 1962 годзе. Жыве ў Вільні. Піша на беларускай, польскай і рускай мовах. Выдаў кнігі „За калючым дротам” (1966 г.), „Życie do żywych należy” (1996 г.), „Жизнь живым принадлежит” (1996 г.), „Мондзінская балада” (1966 г.), „Навагрудская Беларуская Гімназія” (1997 г.). Да друку рыхтуецца новая кніга Андрэя Чэмера пра Барыса Кіта.

Кніга пра Сяргея Хмару пачынаецца з „Прадмовы”, дзе аўтар піша, што „Сяргей Хмара ў гісторыі Беларусі з'яўляецца адзіным дзеячам, які саматугам дабіўся такога ўзроўню спецыялізацыі, каб у сучасную эпоху стварыць уласным мазалём беларускую газету на чужыне і 42 гады (да смерці) заставацца яе галоўным рэдактарам і выдаўцом”... Сапраўды так. Але далей у кнізе пра Сяргея Хмару нічога няма. Аўтар кнігі гартае старонкі газеты „Беларускі голас” і прыводзіць розныя вытрымкі з артыкулаў і інфармацый гэтага выдання. Можа лепш было б назваць кнігу „Гартаючы «Беларускі голас»”, які, дарэчы, выходзіў з 1942 да 1992 года. Цытаты і вытрымкі з „Беларускага голасу” Андрэй Чэмер сабраў тыя, якія яго больш за ўсё зацікавілі. Некаторыя заслугоўваюць увагі:




„1971 год. У Лондане адбылося адкрыцце і пасьвячэньне папскім Нунцыем — Арц. Анрычы, Беларускай Бібдіятэкі і Музэю. Месьціцца там шмат каштоўных друкаў і іншых гістарычных экспанатаў”.

„1972 год. У лютаўскім нумары 1972-га году „Беларускі голас” парушае кітайска-беларускія адносіны і падкрэсьлівае, што мяжуе з Кітаем значная колькасць беларусаў, пераселеных яшчэ царскімі ўладамі на адабраныя ад Кітаю землі, захопленыя царамі каля сотні гадоў таму назад, — мільён кв. км, Ленін меўся вярнуць Кітаю. Аднак пасьля яго хуткай сьмерці, Джугашвілі вырашыў гэтых зямель не аддаваць. Газэта лічыць, што ў выпадку канфлікту між вялікімі імпэрыямі, беларусы павінны займаць нейтральную пазыцыю і не рызыкаваць жыцьцём за чужыя грабежніцкія інтарэсы”.

„1974 год. Вельмі непрыемную сустрэчу нарыхтавалі савецкаму міністру А. Грамыку. Калі ў Парыжы францускі ўрад запрасіў яго на канцэрт у Опэрны тэатр, там Міністра Замежных Спраў чакала вялікая грамада антысавецкіх дэманстрантаў. Акрамя лозунгаў і абразьлівых выкрыкаў, была кінута ў яго напрамку бомба. Паліцыя змушана была гумовымі кіямі і сьлёзацякучымі бомбамі разганяць дэманстрантаў. 30 асобаў было арыштавана”.

„1991 год. Вядомага беларускага пісьменьніка А. Грачанікава, нядаўна знойдзена пабітага і пакалечанага (зь цяжкімі траўмамі), каля тэнісных кортаў у Менску. Ён памёр у шпіталі. Меў 53 гады. Ня ў лагеры, дык каля роднай хаты. (Быць інтэлігентам на Беларусі небясьпечна!) Ведама — чый там „парадак”: на 10 мільёнаў насельніцтва 700 тысяч членаў камуністычнай партыі. На кожных 10 чалавек 1 эканом”.

Вось з такіх інфармацый і выпісак складаецца кніга Андрэя Чэмера, якая называецца „Сяргей Хмара”. А пра самога публіцыста, паэта, празаіка, выдаўца і палітыка Сяргея Хмару фактычна нічога няма. Таму працягам гэтага матэрыялу будзе аповед пра Сяргея Хмару ў наступным нумары.

**Сяргей Чыгрын**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

**Зорка**
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# *Школа Веранікі*

Тата і мама Веранікі Шніп працуюць у беларускім тыднёвіку ў Мінску „Літаратура і мастацтва". У яе ёсць яшчэ брат Максімка і бабуля Галя. Жывуць яны па вуліцы Волаха.

— Памятаеш, Вераніка, хто ад вас жыў недалёка? Яго калісьці ведала шмат дзяцей з Беласточчыны, захаваліся ягоныя лісты ў рэдакцыю. Ты часта бывала ў яго доме...

— Так, гэта „Дзед", паэт Сяргей Новік-Пяюн. Ён вельмі кахаў дзяцей. Я любіла яго наведваць.

— А што ты любіш найбольш у жыцці?

— Маляванне. З трэцяга года ў суботы я хадзіла на студыю. Малявалі мы там алоўкамі, фарбамі.

— І захацела стаць мастачкай?

— Так. Пайшла ў 26 Сярэднюю школу — гэта мастацкая школа. Ужо трэці год я там вучуся. Там, апроч мастацкіх заняткаў, ёсць такія прадметы, як „здаровы лад жыцця", матэматыка, мовы... Вучыцца тут трэба 12 гадоў. Больш пра школу можа расказаць мая мама.



Мама Вранікі, Людміла, як і іншыя бацькі вучняў гэтае школы, упэўнена ў тым, што не памыліліся, пасылаючы іх туды вучыцца.

— Заняткі вядуцца на беларускай мове. І патрабаванні ад вучняў вялікія. Вельмі сур'ёзныя ўступныя экзамены, у першы клас, пасля — пасля заканчэння пачатковай школы (перад пятым класам). Наступныя — пасля восьмага класа вельмі сур'ёзны экзамен, таму што старэйшыя класы гэта ліцэйскі курс. Цяпер гэта будзе не проста ліцэй, а Гімназія-каледж пры Акадэміі мастацтваў — 9, 10, 11 і 12 клас. Калі вучань яе канчае, будзе атрымліваць дыплом мастака, так як навучанне ідзе на вельмі прафесійным узроўні. Праграма вельмі сур'ёзная, з тройкамі няма сэнсу тут вучыцца. Калі дзіця не ўмее маляваць, а тым больш гэтага не любіць, там таксама няма чаго рабіць. Упор ідзе на маляванне. Даюцца веды не толькі ў жывапісе ці графіцы, але і ў прыкладным мастацтве — ёсць лепка, саломка, габелен, вітраж, цудоўная школа баціку. Ёсць аддзяленне дызайну і камп'ютэрнай графікі. На выставах відаць, што дзеці мысляць нефармальна, у іх нетрадыцыйныя, „невучнёўскія" працы. Іх працы друкаваліся ў „Першацвеце" — ну, проста цуд! Такое выдаюць! Разняволеная ў іх фантазія. І настаўнікі ў іх выдатныя! Выкладае ў школе Алена Карповіч, якая не першы ўжо раз пастаўляе ў Акадэмію мастацваў на адзяленне графікі найвыдатнейшых, самых лепшых. Яе вучні — найбольш таленавітая моладзь. Усе розныя. Яны сёння сярод мастацкай эліты. Гэта падабаецца мне, што ў гэтай школе дзеці „адвязаныя" ў творчым плане. Дзейнічае „Дзіцячая акадэмія мастацтваў", перыядычна адбываюцца выставы прац юнакоў і дзяўчат ды дзетак. Усё гэта завязана на міжнародным супрацоўніцтве, школа ўваходзіць у сістэму ЮНЕСКА адпаведных школ.

Навучанне — пакуль на беларускай мове. Устала пытанне, каб заснавана была грамадская арганізацыя тыпу „піянеры".

— Нашы прыдумалі стварыць сваю арганізацыю, — кажа Вераніка. — Экалагічную. Яна называецца „Старажоўцы", таму што школа знаходзіцца ў мінскім раёне Старажоўка. І таму, што стаім на стражы прыроды, духоўнасці.

Думаем, што яшчэ пачуем пра гэтых дзетак.

**Міра ЛУКША**

*Фота Людмілы РУБЛЕЎСКАЙ*

# *Успамінаюцца мне дні*

***(успаміны Хведара Ільяшэвіча пра скаўтаў Віленскай беларускай гімназіі)***



*Скаўты Віленскай беларускай гімназіі.*

**Частка I**

Я ўжо здаецца зусім дарослы, многія называюць мяне нават старым, а як убачу я нашых скаўтаў, мне так хочацца стаць разам з імі ў рады, весела і бадзёра шагаць, пяяць звонкія песні і зноў быць маладым, як у тыя часы, калі я быў скаўтам.

Гэта было ў 1921-22 гадах, калі я быў вучнем другога класа Віленскай беларускай гімназыі, але ўспаміны аб тых светлых і радасных днях не зацерліся ў маёй памяці і будуць заўсёды вытканы з найяснейшага колеру. У той час Віленская беларуская гімназыя была сапраўднай беларускай кузняй, дзе кавалілся маладыя сілы для працы на нашай роднай ніве. Тут у той час настаўнікамі былі выдатныя беларускія дзеячы, пісьменнікі і вучоныя як Антон Луцкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, А. Смоліч, М. Гарэцкі і іншыя. Яны мелі вялікі ўплыў на моладзь. Пасля вайны і рэвалюцыі моладзь, вярнуўшыся з бежанства, пасля доўгага перапынку ў навуцы, кінулася з запалам у родную школу. Вучні старэйшых класаў былі зусім дарослыя людзі, а некаторыя з іх мелі нават і барodкі. Усе былі захопленыя беларускай нацыянальнай працай. У гімназыі чыталіся часта рэфераты, ладзіліся літаратурныя суды, спектаклі. Самі вучні зрабілі ў гімназыі прыгожую сцэну, залажылі Драматычную Студыю, якой кіравалі выдатныя артысты, як Францішак Аляхновіч, Л. Родзевіч і іншыя. Студыя выяжджала на правінцыю, дзе ладзіла спектаклі, рабіла беларускія пастаноўкі ў гарадзкой салі. Вучні старэйшых класаў арганізавалі беларускую вясковую моладзь, прымалі дзейны ўдзел у грамадзкай працы (у беларускім Пасольскім Клубе, у выбарах) выдавалі друкаваны часопіс і г.д. А мы, вучні малодшых класаў? Нам усё гэта было недаступнае яшчэ. Але мілавалі тое, чым жылі старэйшыя вучні, пранікала і да нас. На перапынках мы падслухоўвалі іхныя гутаркі, хоць нас часта адганялі, з заздрасцю слухалі іхныя дружныя спевы і мы стараліся наследаваць іх у ва ўсім, так як гэта робяць звычайна дзеці.

***(працяг будзе)***

*(стыль і арфаграфія аўтара захаваны)*

*Фота з архіва Л. ГЛАГОЎСКАЙ*

# *Польска-беларуская крыжаванка № 26*

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 22:** Лі, грукат, будзень, кума, зброд, гак, ода, ара, гумар, Панама, Ака. Буза, румб, дарога, гуз, одум, дама, урна, гара, шар, ток, полка.

Узнагароду, **каляровыя алоўкі**, выйграла **Цаліна Глагоўская** з Гданьска. **Віншуем!**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Upał ▼ | Szpak / Rabin ▼ | Pastor ► | Kula ▼ | ▼ | Kora ▼ |
| Ukrop | | | | | | |
| ► | | | Ara ► / Pora ▼ | | | |
| Rzepak ► | | | | | | |
| ► | | | | | | |
| Sabat / Honorarium | Iran ► | | | | | |
| ► | | | | | | |

# Лянівая прыгажуня і яе цётухны[1]

***(ірландская казка)***

Жыла калісьці на белым свеце бедная ўдава, і была ў яе дачка — прыгожая, як дзень ясны, але вельмі лянівая.

І вось у адну цудоўную раніцу, калі справы ішлі горш не трэба, толькі бедная ўдава раскрычалася з прычыны вялікіх падаткаў на муку, як паўз яе дом праскакаў сам прынц.

— Ай-ай-ай, галубка! — здзівіўся прынц. — У цябе, напэўна, вельмі непаслухмянае дзіця, калі яно прымушае сваю маці так лаяцца. Бо не магла ж гэтая прыгожанькая дзяўчына так раззлаваць цябе!

— Ах, што вы, ваша вялікасць, канечне, не! — адказала маці. — Я толькі папракнула яе за тое, што яна занадта старанна працуе. Ці паверыце, ваша вялікасць, яна можа за адзін дзень спрасці тры фунты льну, на другі — наткаць з яго палатна, а за трэці дзень нашыць з яго сарочак!

— О неба! — здзівіўся прынц. — Вось дзяўчына, якая прыйшлася б даспадобы маёй матулі. Будзьце так ласкавы, васпані, надзеньце на вашу дачку капар і плашч і пасадзіце яе на каня ў мяне ззаду! Ах, мая матуля будзе ў захапленні ад яе, што, магчыма, зробіць яе сваёй нявесткай і маёй жонкай. Канечне, калі сама дзяўчына не будзе мець нічога супраць.

Жанчына не ведала, што рабіць ад радасці і збянтэжанасці ды і ад страху, што падман выявіцца. Але не паспела яна яшчэ ні на што рашыцца, як юную Энці пасадзілі на каня, і прынц паскакаў са сваёй світай прэч, а ў маці ў руках застаўся важкі кашалёк.

Каралева так і абамлела, убачыўшы на кані за сваім сынам сялянскую дзяўчыну. Але калі яна разгледзела яе прывабны тварык і да таго ж пачула ад прынца, што Энці ўмее прасці, ткаць і шыць, каралева вырашыла, што дзяўчыне проста цаны няма. А прынц выбраў хвілінку і шапнуў Энці на вушка, што, калі яна не супраць выйсці за яго замуж, яна павінна абавязкова спадабацца маці-каралеве.

Час быў вечаровы. Прынц і Энці чым далей, тым болей падабаліся адно аднаму. Але калі прыйшла пара сну, каралева-маці завяла Энці ў прыбраную спальню і, пажадаўшы ёй спакойнай ночы, паказала на вялікі ахапак ільну і сказала:

— Ты можаш пачаць заўтра ж раніцай, і я спадзяюся, што да наступнай раніцы мы ўбачым выдатную пражу!

У гэтую ноч бедная дзяўчына не магла заплюшчыць вачэй. Яна плакала і злавалася на сябе, што не слухала парад матулі і не навучылася прасці і ткаць.

Раніцай, як толькі яе пакінулі адну, Энці з цяжкім сэрцам узялася за работу. І хаця ёй далі прасніцу з сапраўднага чырвонага дрэва і лён, аб якім можна толькі марыць, у яе кожную хвіліну рвалася нітка. То яна атрымлівалася тонкая, быццам павуціна, то грубая, нібы шнур для бізуна. Нарэшце яна адсунула сваё крэсла, апусціла рукі на калені і горка заплакала.

У гэты самы момант перад ёю адкуль ні вазьміся вылезла маленькая бабулька з дзіўна вялікімі ступнямі і спытала:

— Што з табой, красуня?

— Ды вось я павінна ўвесь гэты лён да заўтрашняй раніцы перавесці ў пражу. А ў мяне і пяці ярдаў тонкіх нітак з яго не выходзіць.

— А ты не пасаромеешся запрасіць на сваё вяселле з маладым прынцам жабрачку Вяліканогую Бабулю? Абяцай паклікаць мяне, і, пакуль ты сёння ноччу спіш, усе тры фунты льну ператворацца ў танчэйшую пражу.

— Канечне, я запрашу цябе, і з задавальненнем, і буду клапаціцца пра цябе ўсё маё жыццё!

— Вось і цудоўна! Ты пакуль заставайся ў сваім пакоі да вячэрняга чаю, а каралеве можаш сказаць, каб яна прыходзіла па пражу заўтра раніцай, хоць на світанку, калі ёй заўгодна.

І ўсё адбылося, як бабулька паабяцала. Пража выйшла тонкая і роўная, ну быццам найтанчэйшая лёска.

— Вось малайчына дзяўчына! — сказала каралева — Я загадаю прынесці табе мой уласны ткацкі станок з чырвонага дрэва. Толькі сёння табе больш не трэба працаваць. Папрацаваць і адпачыць, папрацаваць і адпачыць — вось мой дэвіз! Ты заўтра паспееш наткаць палатна з гэтай пражы. А там хто ведае...

***(працяг будзе)***

# Любчыны прыгоды

***(амаль дзённік)***

**Багацце**

Развітваецца татка з Любкай, на працу ідучы, а яна яму раптам сур'ёзна гэтак, па-даросламу:

— Ты не перажывай, татка. Бог табе багацце дасць.

А дачушцы — шосты гадок усяго: адкуль у яе такія думкі?!

Падхапіў Любачку на рукі, прыціснуў да грудзей і кажа:

— Дык Ён даў ужо, даражэнькая мая! — і ледзь не слёзы з вачэй бацькавых. Цалуе ў шчочку багацце сваё, а багацце яму і кажа:

— Ды не, не гэткае! Другое багацце дасць!

А якое — ні слова!

А татку і спытаць боязна: мо і праўду дачушка мовіла, а як спытаеш — дык усё адразу і страціш: і тое, што ўжо ёсць, і тое, што дачушка наабяцала.

Дзе ж яно, тое багацце, сноўдае? Дзе татку падпільноўвае?

**Анатоль Кірвель**

# Мяшчанскі раманс і сваты



*„Гуз злева, гуз справа" — іграюць Аня Александровіч і Юліта Навумюк з рыбалаўскага тэатра.*

Тэатр Ягуштова са спектаклем „Мяшчанскі раманс" і тэатр з Рыбал са „Сватамі" пабывалі ў Венгажэве, дзе праходзіў Міжнародны фестываль дзіцячых тэатральных калектываў нацыянальных меншасцей.



*„Мяшчанскі раманс" — тэатральная група „Ягуштова" спявае вяснянку.*

Яшчэ да 6 чэрвеня г.г. тэатры сустрэліся ў Рыбалах. Спектаклі сталі падзеяй у жыцці вёскі. У мясцовы Дом культуры зышлося многа гледачоў, сярод якіх пераважалі дзеці. Быў мясцовы святар, айцец Рыгор Сасна з матушкай Антанінай, бабулі дзяцей, калектыў „Хлопцы-рыбалоўцы". Гаспадары, пад кірункам Лідзіі Мартынюк, падрыхтавалі тры тэатральныя пастаноўкі. Наймалодшыя паказалі „Прыгажуню і пачвару", затым старэйшыя спектакль на беларускай літаратурнай мове „Гуз злева, гуз справа", і этнаграфічную пастаноўку „Сваты". Апошняя п'еса на мясцовым дыялекце, а вясельныя песні выканаў калектыў „Хлопцы-рыбалоўцы".

Цікава, што ў канцы XX стагоддзя зноў адрадзілася зацікаўленне традыцыяй і аўтэнтычным фальклорам.

— Многаму вучымся ладзячы спектаклі пра жыццё нашых продкаў, — сказала Ася Александровіч родам з Давідавіч.

**Г. К.**

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*



*Слухаючы старых песень бабулі ўспаміналі свае маладыя гады.*

# Свята беларускай культуры



*На сцэне „Сузор'е" з Брэста.* Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА

Пад такім лозунгам у нядзелю 13 чэрвеня ў беластоцкім амфітэатры адбыўся фэст арганізаваны Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Мерапрыемства адкрыў старшыня Таварыства, пасол у Сейм ад Саюза левых дэмакратаў Ян Сычэўскі. Прывітаў ён *вельмі сардэчна* пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктара Бурскага з жонкай і яшчэ дзве ўладарныя жанчыны; адну з Гродна, а другую з Гайнаўкі — Вольгу Рыгаровіч, старшыню Рады павета і заадно войта Гайнаўскай гміны. Менш важных гасцей прывітаў ён *сардэчна*: спецпасла Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь Яўгена Вайтовіча з жонкай, пасла ў Сейм Рэчы Паспалітай Сяргея Плеву з жонкай, радных ваяводскага і гарадскога рангаў ды войта Арлянскай гміны Міхала Іванчука.

Таксама *сардэчна* прывітаў старшыня БГКТ Ян Сычэўскі Генеральнага консула РБ у Беластоку Мікалая **Крэчка** з жонкай і віцэ-консула Паула **Латушка** з жонкай. Паколькі Генеральны консул, які строга сочыць за ўсялякай правільнасцю, не выпраўляў выказванняў санавітага рытара, мяркую, што былі яны згодныя дыпламатычнаму пратаколу і цяпер называецца ён **Крэчак**, а ягоны *зам* — **Латушок**.

Ян Сычэўскі заўважыў прысутнасць слаўнага нашага войта. Гэтым разам цёзка „Горбі" быў нейкі прыгорблены і маркотны, быццам ноччу прысніўся яму нейкі „сухі закон". Не заўважыў затое пасол ад левых дэмакратаў прысутнасці на фэсце адзінага ў ваяводстве старасты ад гэтага палітычнага згуртавання — Уладзіміра Пятрочучка, старасты „чырвонага" Гайнаўскага павета; так гэта бывае, калі рытар не займаецца палітыкай, асабліва ж у асяроддзі, якое мае прадстаўляць. Ян Сычэўскі выдумаў яшчэ новую назву брэсцкаму ансамблю песні і танца, які спярша назваў „Стрэчаннем", а толькі пасля „Сузор'ем". Я выказваю сумаванне, што пасол выступіў адно толькі раз падчас свята культуры, бо ж мог ён нагаварыць яшчэ шмат чаго цікавага.

Пасля старшыні БГКТ на сцэне выступіў яшчэ спецпасол МЗС РБ Яўген Вайтовіч, які зачытаў ліст ад віцэпрэм'ера і заадно міністра замежных спраў РБ Урала Латыпава, у якім гаварылася пра прыгажосць беларускай мовы; дзякуй міністру Латыпаву за ягонае філалагічнае хобі.

А пазней выступалі ўжо толькі спевакі. Вось яны: „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага, „Рэчанька" з Козлікаў, „Ас" з Беластока, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, „Лясныя скамарохі" з Кляшчэляў, „Чыжавяне" з Чыжоў, „Капры" з Беластока, „Збучанкі" са Збуча, „Пронар" з Нарвы, „Незабудкі" з Курашава, „Каласкі" і „Крыніца" з Беластока, „Жураўінкі" з Агароднічак, „The Best" з Сямятыч, „Рассяпаны Гарадок" з Гарадка і „Прымакі" з Беластока. Сольныя выступленні мелі яшчэ дагэтуль не вядомыя шырокім кругам слухачоў Ева Вэрэмюк з Кляшчэляў — мо шасцігадовая дзетачка-кветачка, і дзве школьніцы з Нарвы. Ну і Ала Дубец — чалавек-інстытут нашага культурнага жыцця.

Рэпертуарныя прыярытэты выканаўцаў не змяніліся і кожны спяваў свае вытанчаныя жанры добра вядомыя нашым заўсёднікам. Публіцы найбольш падабаліся спевы пра цыганоў і казакоў; дарэчы, калі б так разглядзецца па неадлеглым наваколным свеце, дык можна было б заўважыць захапленне люду рознымі валацугамі, напр. вандроўнымі артыстамі. Творы выконваліся на літаратурнай або „тутэйшай" мовах. Толькі дзяўчаты з „Пронару" падспеўвалі па-польску. У гэтым апошнім выпадку, як мне здаецца, мастацкі кіраўнік „Пронару" д-р Ежы Томзік, вядомы ў Беластоку сваёй рассеянасцю, папросту хіба або пераблытаў „Свята" Сычэўскага са „Славянскім базарам" Лукашэнкі або палічыў, што песня „Tyle słońca w całym mieście", якую калісь спявала Анна Янтар, а сёння прыгадвае яе ейная дачка Наталля Кукульска, гэта „истинно белорусская песенка".

Калектыў „Сузор'е" з Брэста, як і большасць выканаўцаў з Беларусі, састаўлялі не толькі спевакі, але таксама музыкі і танцоры. Калі мова пра апошніх: мая жонка хваліла танцораў, а я зноў іх і не бачыў, бо не мог адарваць зроку ад танцорак, якія, здаецца, і не дакраналіся да сцэны...

Канферанс вяла Валянціна Ласкевіч. Паведаміла яна, што на арганізацыю мерапрыемства, побач некалькіх спонсараў, сёлета адвялі невялікія грошы і беластоцкія гарадскія ўлады. Гарадскія крышку дрогнулі, а вось ваяводскія непахісна трымаюць свае „*Акопы Святой Тройцы*".

Публікі было мо з паўтары тысячы. Заняла яна ў амфітэатры даволі шчыльна тое ж месца, якое ў Сейме Рэчы Паспалітай займаюць паслы ад левых дэмакратаў. Магчыма, што на такі выбар мела нейкі ўплыў удзячнасць Яну Сычэўскаму, але здаецца мне, што галоўнай прычынай такіх паводзін публікі было надвор'е: сонца спачатку бязлітасна прыпякала тую частку трыбунаў, дзе ў Сейме засядаюць найбольшыя багамольнікі; відаць і Нябёсы таксама бязмежна радаваліся паралельнаму з фэстам шчасцю апошніх. Пазней паявілася і хмара, але яна толькі лёгенька пакрапіла ўдзельнікаў мерапрыемства, быццам пабласлаўляўшы.

Апрача спевакоў былі і другія стваральнікі культурных каштоўнасцей. Дырэктар варшаўскага цэнтра друку і кніжкі славянскіх народаў Ян Заброцкі прапанаваў беларускія кнігі. Свае кнігі падпісвалі і нашы аўтары: Васіль Петручук, Уладзімір Саўчук і Віктар Швед. Былі таксама візітныя картачкі Міхася Хмялеўскага і Янкі Целушэцкага, але першы на трыбунах любаваўся спевамі, а другога і зусім не было; відаць яго прозвішча мела быць толькі магнітам на аматараў прыгожага пісьменства. Спытаў я Васіля Петручука, як ідзе бізнес, а ён адказаў што выдатна. А мне асабіста здаецца, што літаратурны бізнес пайшоў бы яшчэ лепш, калі б аўтарам адвесці па сцэнічнай хвіліне на прэзентацыю імі іх творчасці. А то сядзелі яны збоку, па-за зрокам публікі, быццам у нейкім ізалятары ад яе. На маю думку некалькі сказаў жыццёвай праўды Віктара Шведа ці Васіля Петручука занадта не пашкодзілі б вельмісардэчнасцям Яна Сычэўскага а заадно дазволілі б даведацца, якія вершы піша напр. Янка Целушэцкі.

Побач кніжак прапанаваліся пакупнікам магнітафонныя запісы нашых вясковых і гарадскіх хораў а таксама вырабы майстроў рукадзелля з Гродзеншчыны і Беласточчыны. Ну і былі яшчэ вырабы піваварняў і гарачыя каўбаскі, духмянасць ад прыпякання якіх стварала непаўторную культурную атмасферу.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Спадніцы-андаракі

Цікавай і важнай часткай беларускага жаночага гарнітура пасля кашулі з'яўляецца спадніца — паясное адзенне.

Палатняная спадніца ў залежнасці ад расфарбоўкі мела назвы „бялак" — крэмавых адценкаў, „сінька", „сіняк" — пафарбаваная ў сіні колер, „набойка" — з набіўной тканіны, „рабан", „шарачок" — тканая ўклетку. Спадніцы, якія шыліся з шарсцяной або паўшарсцяной тканіны хатняга вырабу на памежжы Польшчы і Беларусі называліся андаракамі. У працы В. Лазінскага ёсць прамое ўказанне на нямецкае паходжанне слова „андарак" (Wł. Łoziński, *Życie polskie w dawnych wiekach*, Lwów, 1911, стар. 94).

Спадніца, пашытая з куплёнай шарсцяной тканіны або тонкага крамнога сукна, аднатоннага колеру — сіняга (Падляшша), зялёнага, часцей вішнёвага — у сялянскім асяроддзі ў XIX ст. называлася часцей за ўсё саянам. Тэрмін „саян" сустракаецца ў помніках старажытнабеларускай пісьменнасці ў дастасаванні да жаночага адзення, што сведчыць аб яго шырокім бытаванні ў XVI-XVII ст.ст. Саян з куплёнай шарсцяной тканіны быў здабыткам толькі заможнай часткі сялянства, у той час як бедныя сяляне шылі іх з сукна хатняга вырабу на ват у розных расфарбоўках.

У XIX — пачатку XX ст. на Падляшшы ці Заходняй Беларусі вядомы быў тэрмін „панёва", якім часцей называлі доўгія да пят спадніцы, сшытыя ў 4-5 полак. Этнаграфічныя звесткі ў І. А. Сербава, В. Ф. Мілера дазваляюць сцвярджаць, што ў беларусаў папярэдніцай сшытага андарака была расхіленая панёва. Аб бытаванні панёвы на Беларусі пісаў А. К. Супінскі, які лічыў устаўку з іншага матэрыялу або з таго ж, толькі іншай расфарбоўкі ў верхняй частцы пярэдняй полкі андарака перажыткам панёвы. Устаўка сапраўды збліжае беларускі андарак з панёвай, з прошвай. Панёвы гэтага тыпу сшываюцца з трох полак і зверху замацоўваюцца на матузку. Тое ж самае мы бачым і ў андараку з устаўкай, дзе пры трох аднолькавых полках спераду ўстаўляецца полка іншага матэрыялу. Як і панёвы, андаракі шылі з сукна хатняга вырабу, вытканага ў клетку: белыя, чорныя, зялёныя, фіялетавыя клеткі на чырвоным фоне. Фон мог быць таксама вішнёвым, а часам чорным. Вядомы андаракі і аднатоннай расфарбоўкі (цёмна-вішнёвая, сіняя, фіялетавая) — андаракі надбужанскія з ваколіц Дамачова. У пост каларыстыка крыху мянялася, што і адлюстроўвалася ў назве „дзяжачкі" — цёмна-сіні андарак у чорна-зялёныя і белыя палоскі. Льняныя спадніцы насілі летам. У залежнасці ад узору тканіны, які атрымліваўся ў працэсе ткацтва ў 4-8 нітоў, спадніцы называлі „клетковая", „у крыжы" і г.д. Падпаясвалі яе пярэстым поясам. Часта дадатковымі элементамі дэкору служылі запрасаваныя складкі, вышыўка, нашыўкі карункавых тасемак званыя гафрыроўкай. Зразумела, што „плісаванку" на андарачнай тканіне вясковыя жанчыны рабілі самі. Клятчатае даматканае палатно складалі ў плісы і клалі на ўслон, прыкрывалі ручніком, на які лажылі гарачы хлеб. Андаракі вылучаліся сакавітасцю бурачковых, фіялетава-сініх фарбаў, арнаментальнай узорыстасцю ніжняй часткі. Найбольш буйнай каларыстыкай андарачных спадніц на Заходняй Беларусі вылучаецца дамачоўскі строй, аднак у нічым не пераастачаю надбужанскага паяснога адзення. Можна і адзначыць, што ў Дамачове на Падляшшы андарак і фартух (з адной полкі) быў з аднолькавай па якасці і каларытнасці, арнаментальным вырашэнні, паўшарсцяной або льняной тканіны ў буйныя складкі. Цэлае поле андарака запаўнялі чырвоныя, зялёныя, блакітныя, белыя, чорныя падоўжныя лініі, а на фартуху палоскі беглі часта гарызантальна, але не заўсёды. На Падляшшы ільняныя спадніцы называлі „фартухамі" або „хвартухамі" — моршчанымі ў поясе. На спадніцу рыхтавалася чатыры „брыты" (даўжынёй 80 см, шырынёй 53 см, пярэдні брыт быў на 5 см шырэйшы). Ніжні край клятчатай спадніцы аздаблялі тканым арнаментам. Бардзюра ўзору спераду мела 22 см, а на іншых брытах шляк арнаменту хістаўся з 18 па 19 см. Клятчатыя спадніцы „краткоўкі" ткалі з ільняных дома фарбаваных нітак. Клеткі з чырвоным фонам у перамежку аздаблялі белымі або зялёнымі ніткамі. Кожная спадніца была індывідуальнай, непаўторнай, а ўсё гэта залежала ад творчай фантазіі жанчыны. Палатно на надбужанскія спадніцы ткалі ў каляровыя вертыкальныя палоскі. Паўсюдна называлі іх „рандакамі", а ваўняныя на ільняной аснове — „піхулі", „пыхулі", інакш буркі. У раёне в. Шустка Радзынскага павета спадніцы 80 см даўжыні ткаліся ў палоскі, назва іх арыгінальная — „робакі". Вытканыя палоскі ўкладвалі адзін каля другога стараючы пры гэтым аднатонны фон. Іншага колеру палоскі хавалі пад ніз складак. Жанчына апранутая ў „робак" ідучы паказвала сакрэтнасць спадніцы сшытай з палосак. Складкі расхіляліся і відны былі светлыя стоўбікі, якія адразу і хаваліся. Ніжні край ваўнянай спадніцы абшывалі цёмна-сіняй або чырвонай стужкай — „шчотачкай" — маленькімі мохрыкамі. Часта нашывалі жоўтую стужку, а вышэй ушывалі зялёны матэрыял з хусткі, з набойкай кветкавага арнаменту — пліска 6, 5 см. Каб паказаць багацце надбужанскай спадніцы прышывалі белую карунку, тоненькую ліловую або зялёную як на вяселле.

**Івона МАРЦІНОВІЧ**

# Следам за Еўфрасінняй

**Энергія жанчын і моладзі — энергія нацыі... І гэта энергія будзе накіравана перш за ўсё на барацьбу за свабоднага чалавека ў адной з самых залежных ад феадальных каранёў краіне... — сцвярджалася ў Мінску на канферэнцыі „Жанчына. Планета. Будучыня".**

Мовы канферэнцыі былі тры афіцыйныя — беларуская, руская і украінская. 350 жанчын — лекарак, эколагаў, палітыкаў, юрыстак, артыстак, педагогаў, бізнесменак, кааператарак, фермерак і аграномаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Малдовы, Вялікабрытаніі і ЗША (і бадай трох ці чатырох мужчын) разважалі пра тое, як мае свет выратаваць жанчына, створаная на тое, каб нараджаць, выхоўваць, ахоўваць, рэалізаваць свае творчыя магчымасці. Паколькі наступіў відавочны сусветны крызіс мужчынскай палітыкі, жанчыны павінны зрабіць яе гуманнай, чыстай справай. І хоць, вядома, было шмат наракання, як цяжка жанчыне быць апорай і асобай, з якой мусяць лічыцца, якія беды наваліліся на свет кіраваны мужчынамі, якія „любяць жалезныя цацкі", выступленні былі вельмі канкрэтнымі, з прапановамі дзеяння: „чоловіки мусять слухати нас", каб не „пинали женщин колёса мерседесов, а чтобы они ездили на них", як выкарыстаць законы для яднання, вучыцца дэмакратыі і выкарыстоўваць яе, каб выйграваць дзеля барацьбы за свае правы, выхаваць лідэрак, стварыць „сямейную экалагічную школу" дзеля выхавання і адукавання матак і дзяцей у экалагічным і агульнасацыяльным плане... „Думай глабальна — дзейнічай лакальна" — гэта лозунг не толькі для жанчын. „Не ўмеем сябе бараніць. Мы маем на гэта права". Трэба адукавацца, каб ведаць...

— Мы жывём ва ўмовах вострасацыяльнага крызісу, і наша становішча часта абумоўлена балявымі праблемамі постчарнобыльскай катастрофы, — сказала прэзідэнт Усебеларускага фонду святой Еўфрасінні Полацкай Валянціна Коўтун. — Сёння цяжка ўсім. Але менавіта жанчыны — найбольш пакутная і абяздоленая частка насельніцтва. Прама ці ўскосна, але найперш менавіта супроць маці і дзяцей накіравана тая палітыка экагенацыду, якая пазбаўляе жанчын іх галоўнага права — права на здароўе і жыццё. Права на нацыянальную годнасць і высокую мараль. У той жа час замест барацьбы за свае правы, замест актыўнага супраціўлення смяротнаму экалагічнаму злу, замест магутнага пратэсту, беларуская жанчына заняла прымірэнчую пазіцыю ахвяры, што прыводзіць да заўчаснай смерці. Маральна-псіхалагічны стан беларускай жанчыны пагаршаецца, 70% будучых маці ставіцца дыягназ „ускладнёная вагітнасць". Нашы дзеці ў цісках жахлівых хвароб. Шквалам абрынуўся жаночы суіцыд. Грамадства раз'едзена атрутай насілля, скіраванага зноў жа — супраць жанчыны. Аднак частка жанчын нават не задумваецца над тым, што ж адбываецца, не ведае сваіх праваў. Усё гэта пацвярджае нашу цвёрдую перакананасць: настаў час актыўнай экалагічнай адукацыі жанчын дзеля абуджэння іх грамадска-актыўнай ініцыятывы і разбурэння псіхалогіі і вобразу ахвяры. Мы павінны ведаць свае правы. Мы павінны выстаяць. Зона экацыду стане рэгіёнам барацьбы жанчын за жыццё! За жыццё сваё і сваіх дзяцей, за жыццё нацыі.



*Наша апякунка і натхненне — Еўфрасіння Полацкая.*

У межах адукацыйна-аналітычнага Цэнтра „Жанчына ў зоне экацыду" ўзнік праект „Жаночая экалагічная школа правоў" — адукацыйная і арганізацыйная праграма навучання жанчын і моладзі Беларусі барацьбы за свае правы і чыстае навакольнае асяроддзе. „Менавіта беларускі народ застаецца перш за ўсё — Чарнобыльскім, — сцвярджаюць Святлана Алексіевіч і Валянціна Коўтун. — Гэта народ, які валодае абсалютна унікальным, яшчэ не вядомым чалавецтву, вопытам. Вопытам чарнобыльскага экацыду, які ставіць, па сутнасці, маладую нацыю на мяжу вымірання. Сёння расце моладзь, якая нарадзілася пасля атамнага выбуху... Сёння размова ідзе аб тым, як нам усім вучыцца. Вучыцца вопыту выжывання і вопыту барацьбы. Размова ідзе таксама аб усеагульным выхаванні новага, чарнобыльскага, светапогляду — дзеля тых беларускіх пакаленняў, якія павінны зрабіць усё магчымае, каб увайсці ў новае тысячагоддзе з новымі ведамі і новымі навыкамі барацьбы за свае правы і сваё жыццё... Адсутнасць у жанчын, дзяцей і моладзі Беларусі праваабарончых ведаў, няўменне абараніць свае правы на будучыню, сацыяльныя і палітычныя катаклізмы нараджаюць, у сваю чаргу, адчуванне абыякавасці і апатыю. Замест барацьбы за чыстае асяроддзе, замест актыўнага пратэсту і супраціву экалагічнаму злу наша моладзь заняла пасіўна-прымірэнчую пазіцыю ахвяры, тым самым набліжаючы сябе да заўчаснай пагібелі... Менавіта на абуджэнне актыўнай жаночай і маладзёжнай ініцыятывы ў галіне абароны ўласных правоў і прыроды на шляху пабудовы адкрытага грамадства скіравана гэта праграма. У той жа час аб'яднанне экалагічных, жаночых, маладзёжных і праваахоўных арганізацый, новы паварот адукацыйнай тэматыкі, у сваю чаргу, спадзяемся, паўплывае на фарміраванне ў Беларусі новага грамадзянскага светапогляду і пакліча да абароны сваіх правоў актыўных жанчын і моладзь... «Усе мы — з сацлагера і свядомасць у нас — лагерная». Дэмакратычным сілам варта ўлічваць, што ў сітуацыі, калі частка народа знаходзіцца пад уплывам замбіравання, настаў час новай тактыкі. Магчыма, „Школа правоў" адыграе важную ролю ў паскарэнні кансалідацыі дэмакратычных сіл", — маюць надзею лідэркі Усебеларускага жаночага фонда святой Еўфрасінні Полацкай.

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*

# Асвячэнне крыжоў

У прыходзе Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы 6 чэрвеня г.г. адбылося асвячэнне 18 крыжоў, якія завяршаюць купалы новабудаванай царквы. На багаслужбу прыехалі не толькі гайнаўяне з суседніх прыходаў, але і людзі з навакольных вёсак. Літургію, у саслужэнні свяшчэннікаў Гайнаўскага і суседніх благачынняў, узначаліў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава. Меншыя крыжы асвячаліся каля царквы, а каб асвяціць галоўныя трэбы было падняцца на метраў трыццаць уверх. Мітрапаліт Сава і настаяцель прыхода айцец Леанід Шэшка падзякавалі ўсім вернікам за фінансавую падтрымку і працу пры будове храма. Айцец Леанід так успамінаў першыя гады пабудовы:

— Закладка краевугольнага каменя адбылася 23 мая 1993 года. Вельмі і не інфармавалі мы аб гэтай урачыстасці, бо памяталі аб ранейшых пратэстах жыхароў Гайнаўкі, калі хацелі будаваць царкву па старым рынку. Тады яшчэ ўсе праваслаўныя вернікі згуртаваны былі ў Гайнаўцы ў адным прыходзе. Спачатку была задума перавезці сюды нашу драўляную царкву, якая стаяла ў Чыжах, але вырашылі, што лепш паставіць мураваную. Паколькі невялікая была плошча прадбачаная на будову, архітэктар Ян Кабац і праектант Мікалай Малеша зрабілі праект высокай царквы ў ноўгарадскім стылі.

На плошчы велічынёю ў 1 500 м$^2$ пастаўлена царква плошчай у 595 м$^2$ і аб'ёмам у 9 200 м$^3$. Калі глядзець звонку царква нагадвае храм Святога Духа ў Беластоку, але намнога меншы. Глянуўшы зверху можна ўявіць сабе два грэчаскія крыжы наложаныя на сябе і абмежаваныя купаламі. Зможа яна памясціць 750 людзей.

— Фундаменты будаваць пачынalі, калі яшчэ настаяцелем быў пакойны айцец Антоній Дзеятоўскі, а дазвол даваў пакойны мітрапаліт Васілій. Хутка аднак, бо ў снежні 1994 года, паўстаў Грамадскі камітэт пабудовы царквы, а ў красавіку 1995 года заснаваўся асобны прыход, якога настаяцелем і заадно будаўнічым прыйшлося мне быць, — расказвае айцец Леанід. — Спачатку баяўся я самастойнасці і так вялікай будовы, бо па адукацыі я гуманіст, закончыў юрыдычны факультэт у Беластоку, семінарыю ў Яблачыне і Духоўную акадэмію ў Сергіевым Пасадзе, што ў Расіі, а тут прыйшлося быць будаўнічым. Спачатку ў нічым не разбіраўся, але пасля прывучыўся. Нічога не было б без прыхаджан, сярод якіх больш за сто асоб актыўна заангажаваных у будову. Ад 1995 года, калі пачалася пабудова масцен і мужчыны, і жанчыны актыўна прыходзілі дапамагаць, а і будаўнікі, гэта перад усім нашы прыхаджане. Пачынаючы ад успамянутага года вельмі многа асоб ездзіла калядаваць, а прыходзілася і далёка пабываць, у ваколіцах Нурца, Сямятыч. Асабліва запамяталася вёска Баброўка ў Зубацкім прыходзе. Бедненькая вёска, але як адкрыта і шчыра нас прымалі! Многа людзей ездзіла на зборы ў час прыхадскіх святаў. Прастаяўшы пяць ці шэсць гадзін трэба было слухаць яшчэ непрыемнасці ад іншых асоб, якія папракалі, што лепш будаваць бальніцы ці школы.



Найбольшае заангажаванне — сярод старэйшых людзей, пенсіянераў, у якіх і больш часу, чым у маладых.

У час урачыстасці асвячалася 18 крыжоў, сярод якіх адзін галоўны замацаваны быў над храмам, чатыры меншыя, якія будуць на бакавых купалах (два ўжо замацаваныя), пяць, якія стаяць будуць на вышэйшых сценах і восем — на ніжэйшых.

— У гэтым годзе плануем дакончыць будову купалаў і прыкрыць увесь дах, — кажа настаяцель. — Да гэтай пары выдаткавалі на старыя грошы восем мільярдаў шэсцьсот мільёнаў злотых, а змаглі зрабіць так многа, бо грошы ў галоўным ішлі на будаўнічыя матэрыялы. Будаўнікі, сярод якіх многа нашых прыхаджан і заадно пенсіянераў, робяць за палову цаны. Можна сказаць, што на грамадскіх пачатках будовай кіруе Мікалай Нікалаюк, які па два-тры разы на дзень прыязджае наглядаць за працай. За працу на будове і ўсім, хто ўспамагае фінансава і займаецца зборам сродкаў належацца вялікія словы падзякі.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

PS. Ахвотным фінансава ўспамагчы пабудову царквы друкуем банкаўскі рахунак: **PBK S.A. w Warszawie, Oddział w Hajnówce 11101170-299-2700-1-09 Parafia Prawosławna p.w. św. Jana Chrzciciela.** (ам-з)

# Музыкай сплеценыя жыцці



*Марыя і Панцеляймон Савіцкія — бацькі аўтаркі ўспамінаў.*

**Пра жыццёвы шлях сваёй сям'і расказвае Вера ВАЛКАВЫЦКАЯ — 74-гадовая пенсіянерка, заслужаны дзеяч культуры.**

Пад канец XIX стагоддзя царскія ўлады агітавалі нашых сялян перасяляцца ў глыб Расіі. Гарантавалі ім дармовы праезд і свабоду выбару месца пасялення. Гэтай магчымасцю пераважна карысталіся цэлыя сем'і. Часам у адзіночку выязджалі маладыя людзі.

**Пры цары**

Мой бацька Панцеляймон Савіцкі выехаў з Орлі ў 16-гадовым узросце. Ягоныя бацькі Агафія і Прохар мелі сем гектараў зямлі і двое дзяцей. Юнаку не хацелася працаваць земляробам і гаспадарку пакінуў сястры Марфе. Сам паехаў у Маскву, дзе працаваў на заводзе музычных інструментаў, які належаў немцу Цымерману. Ездзіў таксама працаваць у Тулу, дзе выраблялася зброя. Бацька быў майстрам на ўсе рукі, многае ўмеў зрабіць са-мастойна. У 1906 годзе зрабіў сабе куферак, які захоўваецца ў мяне да сённяшняга дня.

**У бежанства**

ў 1915 годзе выехала астатня сям'я Савіцкіх. У Маскву трапіла таксама мая мама, тады бедная сірата Марыя з Вулькі-Выганоўскай, якая спачатку служыла ў мясцовага бацюшкі Лявіцкага, а потым у начальніка пошты ў Бельску. Гэта разам з ім Марыя выехала ў Маскву і там уладкавалася на працу ў ваенную майстэрню, у якой шылі бялізну для войска. Там Марыя сустрэла будучага мужа Панцеляймона Савіцкага, які развозіў харчы па бальніцах.

Марыя і Пацеляймон Савіцкія павянчаліся ў царкве Хрыста Збавіцеля ў Маскве, якую пасля саветы разбурылі. Цяпер гэты храм аднаўляецца.

**Вяртанне на радзіму**

У Польшчу ў 1922 г. вярнуліся толькі маладыя. Бацькі Панцеляймона памерлі ў Расіі і там былі пахаваны. У Бельск за маімі бацькамі прыехала фурманкай сваячка Настка з Вулькі-Выганоўскай. Бацька пайшоў у Орлю пабачыць, што засталося ад іхняй гаспадаркі. Паколькі ў мястэчку ўсё было спалена, бацькі пасяліліся ў Вульцы, у хаце пры дарозе з Боцькаў у Кляшчэлі. У адной палове гэтай хаты была быццам бы карчма, а ў другой — жылыя памяшканні. Праезджыя заходзілі ў хату на чай. Бацька пачаў працаваць у якасці

**настройшчыка і музыканта**

Вырабляў ён гармонікі і баяны, рамантаваў усе іншыя інструменты — саксафоны, гітары, мандаліны, настройваў, дарабляў патрэбныя дэталі. На Пакровы, а тады ў Вульцы адзначаўся прыхадскі фэст, бацюшка Аляксандр Самойліх запрашаў яго пасля багаслужбы на плябанію пайграць на гармоніку сабраным духоўным.

Я нарадзілся ў 1925 годзе. Тады жылі мы яшчэ ў Вульцы, але пасля пераехалі ў Кляшчэлі. Памятаю, што восенню 1938 года нейкі Гнядоўскі, сляпы, які зарабляў на жыццё іграючы на акардэоне, папрасіў бацьку перарабіць ягоны акардэон Старміроўскага з двухгалосага на чатырохгалосы. Заказчык жыў у нас два тыдні. Памятаю, як маці паставіць яму суп на стале, то ён не можа адразу знайсці лыжку. За гэты час бацька з'ездзіў у Варшаву за неабходнымі дэталямі і настроіў інструмент паводле двух камертонаў — А і С (камертоны захаваліся да сённяшняга дня). Сляпы заплаціў бацьку, падзякаваў і сказаў, што нікому пра бацькавы ўмеласці не скажа, каб не мець канкурэнта з удасканаленым акардэонам.

**Як уступіла Чырвоная Армія**

то ў Чаромсе спынілася савецкае войска. Пра майстэрства бацькі ведалі ўсе ў наваколлі. Даведаліся пра гэта і савецкія салдаты ды сталі прывозіць да яго ўсялякага роду баяны. Потым ваенкамат адкрыў майстэрню ў яўрэйкі Цэтлы. Разам з бацькам працавалі Мікалай Мернер (а можа Вернер?) з Мілейчыч, які рамантаваў гадзіннікі і веласіпеды (потым немцы яго расстралялі) і украінец Валошын, які рамантаваў замкі і быў майстрам па вырабу чучалаў. Птушыныя чучалы заказвалі ў яго камандзіры і палітрукі.

**Падчас гітлераўскай акупацыі**

мой бацька далей займаўся рамонтам усякага роду дакладных механізмаў. А мяне ў 1942 годзе забралі на работы ў Прусію, у Кёнігсберг. Там я працавала на кухні. У горадзе была байдарачная прыстань. Нямецкія салдаты выплывалі некалькімі байдаркамі на мора, а адна немка іграла ім на акардэоне. Пры святле месяца, у імгле, пры чароўнай музыцы немцы гулялі, а нам, прымусовым рабочым, гэта было недаступнае. І тады я падумала: калі дасць Бог і я вярнуся дадому, абавязкова навучуся ў бацькі іграць!

*(заканчэнне будзе)*

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Рэпрадукцыя аўтара*

# Пасля мяне астануцца толькі двое

Калі 31 ліпеня 1941 года пастралялі жыхароў Нарваўскай гміны („Ніва" н-р 2098 ад 28.07.1996 г.) бацька мой рашыў ехаць у Беласток, у Беларускі камітэт. Маці ўгаворвала:

— Не едзь, бо цябе заб'юць!..

А бацька ёй адказваў:

— А *пасматры*: ужо сорак забілі пад Васькамі, і яшчэ восемдзесят маюць на спіску. І колькі сірот будзе! А пасля мяне астануцца толькі двое...

Ну і паехаў у Беласток тлумачыць, што людзі на спісках гэта не камуністы. І не стралялі больш, толькі суд у Бельску зрабілі. І бацьку на той суд паклікалі. Людзі гаварылі пра яго:

— Паехаў і ўжо не вернецца...

А ён прыехаў, а не вярнулася гміннае начальства на чале з Ангерам, войтам.

Калі закончылася вайна, тата мой быў адным з арганізатараў грамадскага жыцця ў гміне; стаў ён першым старшынёю нарваўскага ГСу.

У нядзелю, 11 чэрвеня 1945 года прыйшлі ў наш дом ноччу. Мама косы мне заплятала, калі заламаталі ў дзверы...

І забралі татку. І яшчэ аднаго мелі забраць разам з татам. Забралі аднаго з яго хаты, але выяснілася, што гэта не ён; свае відаць там былі і адпусцілі забранага памылкова.

А майго тату апошні раз бачылі, як з завязанымі вачыма праз Ваські вялі ў Лядское. А пасля ўсялякі след па ім прапаў. Колькі папашукалі, але ніякай весткі!

Раз яшчэ былі прыйшлі, па-руску гаварылі:

— Скажите, кто. Мы их всех подберём!

А мама ім адказала:

— Усе мае суседзі добрыя. А тыя што прыходзілі, прыйшлі звонку. Нікога з іх я не ведаю...

А мы ўжо пасля дома не начавалі, па кустах, а нават па могілках хаваліся.

Тыя лясныя то пасля па цэлай Польшчы параз'яджаліся. А мама нідзе не скардзілася, увесь час маўчок. І заўсёды гаварыла, што ўсе людзі добрыя.

І асталася мама ўдавою. Адну кароўку мела, але і тая здохла. Хварэла мама гіпертаніяй.

А я пайшла вучыцца ў Бельск, у Педагагічны ліцэй. Жыла ў інтэрнаце, кіраўніком якога быў мой дзядзька. Але ён, пярэхрыст, харчовых картак мне не даваў, бо праваслаўная. Не мела я чым сілкавацца, то харчавалася за стыпендыю, а за інтэрнат не плаціла. Сяброўкі дзяліліся сваёю ежай са мною. І ў трэцім класе, пасля двух месяцаў вучобы, вымушана я была спыніць навуку. Вярнулася дадому і стала на працу ў ГС, які калісь заснаваў мой бацька. Калі крыху зарабіла, завезла таму дзядзьку ў інтэрнаце свае даўгі і ён мне даў пасведчанне што я правучылася два гады ў ліцэі.

Я вельмі хацела вучыцца і, калі атрымала тое пасведчанне, прадаўжала завочна вучобу ў Беластоку, у Эканамічным тэхнікуме.

А цяпер я ўжо на пенсіі. Але ўсё яшчэ, пасля звыш пяцідзесяці гадоў, калі нехта кране вонкавыя дзверы хаты, ахоплівае мяне трывога.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Карчавалі і насаджвалі

У вёску Новіны сёння цяжка трапіць. Яшчэ некалькі гадоў таму пры дарозе з Новага Ляўкова ў Тарнопаль стаяў паказальнік, але цяперака яго ўжо няма. Навокал толькі лес. Яшчэ да вайны лесу гэтага не было, толькі палі, на якіх жыхары Новін і Ляўкова вырошчвалі жыта і грэчку, а дзе было крыху ніжэй, там і бульбу садзілі. Зямля аднак тут была слабая і ў 1949 годзе пасадзілі на ёй сасновы лес, пакідаючы столькі ворнай, колькі трэба было жыхарам Новін, якіх тады пражывала ў вёсцы каля дваццаці сем'яў; сёння жыве тут каля дваццаці душ, з якіх шасцёра дзяцей у адной сям'і.

Вёску Новіны заснаваў некалі чалавек, які называўся Казлоўскі; у большасці жыхароў Новін такое менавіта прозвішча. Працаваў ён у пана ў Боцьках і, зарабіўшы крыху граша, купіў у Новінах зямлю, якую пасля ён і яго нашчадкі пашыралі выкарчоўваючы лес. Апрача Казлоўскіх пражывалі тут яшчэ Ярашукі, Харкевічы і Немцуновічы; апошнія былі каталікамі, а ўсе іншыя праваслаўнымі.

Падчас апошняй вайны большасць жыхароў Новін немцы прымусілі выехаць у Беласток, а частка перасялілася ў Старое Ляўкова. Яшчэ да прыходу немцаў саветы адну сям'ю вывезлі ў Казахстан; яна пасля шляхам арміі Андэрса вярнулася на радзіму.

У першыя дні вайны немцы недалёка Новін, на Краснай Грэблі — так называўся адрэзак дарогі з Ляўкова ў Тарнопаль, які пралягаў праз Доўгае Багна, — зламілі два ці тры савецкія самаходы з амуніцыяй. Прывязалі яны савецкіх шафёраў да тых самаходаў, аблілі ўсё бензінам і падпалілі. Снарады пачалі рвацца і ўсё паразрывалі. Пасля вайны дзеці шукалі там пораху, а знаходзілі людскія косці.

Доўгае Багна пралягала калісь ад Лазовага да Церамкоў. Даўно таму адзін музыка з Ляўкова ці Ахрымоў вяртаўся ноччу з Лукі дадому. І пабачыў ён, пераходзячы цераз тое багна, што там танцуюць маладыя дзяўчаты і хлопцы. Падхапілі яны яго да свае кампаніі і завялі ў палац з раскошнымі пакоямі і там прадаўжалі разам з ім свае танцы. Раптам прапала ўся моладзь, прапаў таксама і палац. Музыка пачаў разглядацца, як адтуль выбрацца. Убачыў ён агеньчык і пайшоў у яго напрамку. А гэта гарэла святло ў ганчара, які жыў у Лазовым. Ганчар па голасе пазнаў музыку, але твар яго быў зусім непадобны, так змяніўся ад начных гульняў. Раніцай музыка разам з ганчаром пайшлі на Доўгае Багна высветліць, што здарылася ноччу. Знайшлі яны толькі музыкаву вопратку ўтаптаную ў гразь, а навокал расла адно толькі лазіна.

Калісь ляўкоўцы вырошчвалі хлеб у Новінах. Сёння жыхары Новін зарабляюць на хлеб у Ляўкове, а жыхары Ляўкова ездзяць *на Новіны* па грыбы. Лесам насаджаны не толькі новінскія палі, але і частка тарнопальскіх і семяноўскіх. Частка апошніх апынулася пад вадою штучнага вадаёма а Доўгае Багна падсушана; можна сказаць што вадзяны баланс захаваны. А людзі і без немца пакідаюць свае вёскі.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Прафанацыя могільніка



У красавіку г.г. у Вульцы-Выганоўскай Арлянскай гміны на незарэгістраваным кар'еры пры дарозе ў Паўлінава, у выніку нелегальнай здабычы жвіру была дапушчана прафанацыя старажытнага могільніка, занесенага ў спіс археалагічных помнікаў. Да знішчэння дайшло напярэдадні сесіі Рады гміны, калі па загаду войта пачалі рамантавацца некаторыя гравійныя дарогі. Разам са жвірам на праезджую частку і абочыну гравіек трапілі людскія косці. Гэта ўзбударажыла мясцовае грамадства.

11 мая спецыяліст-археолаг правёў абследаванне разбуранага могільніка. Пацвердзіў ён прафанацыю людскіх астанкаў. Паводле археолага, на тэрыторыі кар'ера пакоіцца астанкі продкаў жыхароў Вулькі-Выганоўскай. Захавальнік археалагічных помнікаў назваў разбурэнне могільніка неэтычным актам, які вядзе да зацірання слядоў мінуўшчыны. У сувязі з гэтым захавальнік параіў войту перапахаваць прафанаваныя астанкі і спыніць здабычу жвіру на старым могільніку. Піьсмо ў гэтай справе атрымалі таксама ваяводскі геолаг і бельскі староста.

Войт, аднак, праігнараваў жывых і мёртвых. 27 мая, намагаючыся ліквідаваць звалку ў згаданым кар'еры шляхам падпалення смецця, амаль не выклікаў пажару. 31 мая на разбураны могільнік прыехалі дзве камісіі — назначаныя ваяводскім рэстаўратарам помнікаў і археалагічным захавальнікам. Спецыялісты сцвердзілі, што далей вядзецца здабыча жвіру, а ў раскапаных магілах відаць раструшчаныя землечарпалкай косці. Прысутны пры абследаванні кар'ера войт прабаваў пераконваць, што гэта звярыныя астанкі. Аднак археолагаў ён не пераканаў і ў канцы падпісаў пратакол абследавання могільніка. Згодна яму, войт мае тэрміновa паведаміць ваяводскія ўлады аб прынятых мерах па забеспячэнні археалагічнага помніка.

Закон ад ахове культурных помнікаў ад 15 лютага 1962 г. абавязвае мясцовыя ўлады клапоціцца пра стан помнікаў даўніны на сваёй тэрыторыі. Аднак арлянскія ўлады ігнаруюць гэтыя справы поўнасцю. Напрыклад, знішчаецца нядаўна адрамантаваная сінагога. Гміна таксама не клапоціцца пра кіркут — яўрэйскі могільнік, які стаіць неабгароджаны. Нават не вызначаны яго граніцы і коні на ім пасвяцца свабодна. Побач кіркута раскінулася нелегальная звалка смецця. А на забыты арлянскімі ўладамі яўрэйскі могільнік час ад часу прыязджаюць экскурсіі або тэлежурналісты.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 873. Ахвяраванні сабраныя ў скарбонку ў Музеі 17.04.1999 г. ........ 137,00 зл.
4 874. Ахвяраванні сабраныя ў скарбонку на выстаўцы ў „Белай ружы" ........ 15,82 зл.
4 875. Ахвяраванні сабраныя ў скарбонку ў Музеі 26.04.1999 г. ........ 43,18 зл.
4 876. Уладзімір Іванюк (Вітава) ........ 20,00 зл.
4 877. Мікалай Нікалаюк (Гайнаўка) ........ 12,00 зл.
4 878. Надзея Касмовіч-Міцкевіч (Штутгарт у Нямеччыне) ........ 50 марак.
4 879. Вальдэмар Кужэўскі (Варшава) ........ 100,00 зл.
4 880. Ніна Прыступюк (Гайнаўка) ........ 12,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: **Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 682 30 16.**

# Час сенакосаў

— Не надта параслі травы ў гэтым годзе, — гаворыць аднавяскoвец Міхась Б., — але трэба касіць тое, што вырасла...

І сяляне хлынулі на сенажаці. А надвор'е цудоўнае для гэтай справы. Сонца прыпякае, ветрык падувае. Сена добра сохне. Земляробы кожную хвілінку акуратна выкарыстоўваюць.

У панядзелак, 14 чэрвеня, рынак у Кляшчэлях не надта быў вялікі. Прадаўцоў больш чым пакупнікоў.

Сельскагаспадарчыя прадукты танныя. Бульбу цанілі на 15 зл. за цэнтнер, жыта — па 28 зл. а пару парасятак за 100 зл. можна было купіць. Гэтага тавару хоць адбаўляй. Паказаліся ўжо свежыя агуркі. За кілаграм прасілі па 3 злоты, а за галоўку свежай капусты — ад залатоўкі да паўтара. У аб'язных крамах найлепш прадаваўся цукар — па 1,30 зл. кілаграм.

На рынку сустрэў я знаёмага з Вулькі-Выганоўскай. Калі яму сказаў, што шукаю чалавека, які мог бы паказаць мне дубяжынскія сенажаці (канкрэтна сваю палоску сенажацяў), той мне адказаў: „Цяжка гэта будзе. Бо калі ты там не быў, не знойдзеш. Зараз многа сенажацяў някошаных стаіць. Людзі пакідалі. Усё пазарастала крапівою. Некалькі дзесяткаў такіх „няўгоддзяў" будзе. Даўней ПГР касіў сенажаці. Зараз і таго не стала. Вось да чаго мы дабіліся! І з гэтым спяшаем у Еўрапейскі Саюз? Цікава толькі, як на гэта будуць глядзець саюзнікі.

Не адзін гэта прыклад заняпаду сельскай гаспадаркі ва ўмовах рынкавай эканомікі. Толькі што з гэтым зрабіць, каб становішча адмянілася? **(ус)**

# Молада — зелена

Нядаўна давялося мне пабываць у Гайнаўцы. Аформіўшы сваю асабістую справу, наведаўшы рыначак задумаў вяртацца дадому. На станцыі ПКС купіў я білет і пайшоў заняць чаргу. Адна жанчына суправаджала інваліда, які падпіраўся дзвюма палкамі. Інвалід хацеў пайсці наперад, каб заняць сядзячае месца. Пакуль аўтобус прыйшоў на станку, наперадзе сабралася вялікая група маладых людзей. Яны так і не ўпусцілі аніводнага старэйшага чалавека ў аўтобус з чаргі, пакуль самі не ўлезлі ўсярэдзіну. Інваліду ледзь удалося ўлезці ў аўтобус, каб заняць сядзячае месца.

Маладыя, якія занялі сядзячыя месцы, прыглядаліся ў вокны аўтобуса, каб не бачыць старэчаў, якія стаялі побач іх. Падумалася мне: молада — зелена. Наіўныя нявопытныя дзецюкі не ўсведамляюць яшчэ сабе, што і самі будуць калісьці старымі.

Вось якія цяпер у нас сталі людзі. Кожны толькі стараецца, каб для сябе было добра. Была гэта пераважна школьная моладзь. Ці так вучаць іх у школах, ці так іх выхоўваюць бацькі?

**Мікалай Лук'янюк**

# Някошаныя лугі

Зараз з кожным годам заўважаецца ўсё больш непакошаных лугоў. Усё менш духмянага сена назапашваюць сяляне, якія пражываюць у вёсках распаложаных у вялікіх далінах рэк Нарвы і Нараўкі.

Многа гектараў лугоў ніхто не косіць над Нараўкай у наваколлі Плянты, Сушчага Барка ды Падляўкова. Відаць гэта едучы дарогай з Новага Ляўкова ў Нараўку.

Такіх непакошаных лугоў вельмі шмат у ваколіцы Нарвы на абодвух берагах ракі.

Часта, бывае, у сухое надвор'е састарэлую траву нехта падпальвае. Тады такіх палосак з парудзелым травяным сухастоем відаць менш. **(гай)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Мне прыснілася, што аднаго чалавека, сябру маёй дачкі, які цяпер знаходзіцца за граніцай, нейкія мужчыны білі і хацелі ўтапіць у лужыне. Там была вельмі брудная вада.

Я пачала гэтага чалавека бараніць, крычу, што я яго ведаю. А людзі глуміліся над ім. Сама не ведаю, што і думаць пра гэты сон. Напэўна, ён абазначае кепскае...

**Зіна**

Даражэнькі Астроне! Прыснілася мне, што я на вёсцы. Выйшла я ў поле, а там — поўна кветак, быццам уваткнутых у зелень луга. Прайшла я крыху далей, бачу: рака, а вада — як крышталь, чыстая, празрыстая. Я распранулася дагала і ўвайшла ў раку, каб выкупацца. Было мне вельмі прыемна.

**Рэня**

Зіна! Тое, што табе прыснілася пра даччынога сябру, сведчыць аб тым, што ты будзеш мець нейкія непрыемнасці, праблемы. Няма горш, калі бачыш у сне бітага чалавека. Крыўды не пазбегнеш. А да таго ж тыя бандыты яшчэ хацелі яго ўтапіць у лужыне з бруднай вадой. Брудная вада можа прадвяшчаць нейкую хваробу, або прынамсі плёткі, бруды.

У тваю карысць гаворыць тое, што ты бараніла гэтага чалавека. У сувязі з тым можна спадзявацца, што з гэтымі ўсімі непрыемнасцямі ты справішся.

Рэня! Твой сон вельмі добры. Усе яго элементы сведчаць аб тым, што чакае цябе нешта радаснае. Глядзі сама: поле — поспех у справах, прыбытак, зелень луга — надзея на шчаслівую будучыню, кветкі — радасць. Была і рака, якая магла б абазначаць кепскае, калі б вада была мутная, брудная ці рвала берагі. А тут вада была чыстая і празрыстая, значыць, будзе поспех. Тое, што ты распранулася дагала і ўвайшла ў тую раку, можа прадвяшчаць шчасце ў каханні.

**Астрон**



**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




Мал. Алеся СУРАВА („Замалёўкі з Беларускай «натуры»")

## Пра кракадзіла

Па свеце пайшла вестка, што ў вадаёмах на мяжы Польшчы і Беларусі паявіліся кракадзілы. Першыя звесткі згадвалі пра заходняе Палессе, але паколькі з тае пары мінула ўжо крыху часу, трэба спадзявацца, што распаўсюдзіліся яны шырэй. Адкуль узяліся ў нас кракадзілы — здагадаемся пазней; дагэтуль вадзіліся яны галоўным чынам у Афрыцы і Амерыцы. У Амерыцы водзяцца таксама хамелеоны, якіх пры невялікай дозе нядбайнасці можна пераблытаць з кракадзіламі менавіта. Магло такое здарыцца ў нас, бо пасля трансфармацыі грамадскага парадку дзесяць гадоў таму, у нашым грамадскім жыцці паявіліся гэтыя хітруны і то ў навальнай колькасці. Магчыма, што нехта згледзеў нейкага перарослага мутанта яшчаркі і падняў кракадзільную трывогу. Дарэчы, старажытныя грэкі называлі яшчарку *krokodeilos*, а некаторыя старажытныя егіпцяне лічылі кракадзілаў святымі жывёламі, увасабленнем якіх быў бог Сабек — апякун вадаёмаў. Жыхары старажытнаегіпецкіх Фіваў трымалі дома аднаго кракадзіла, якому чаплялі завушніцы з золата або дарагога шкла, на пярэднія ногі нацягвалі браслеты і кармілі яго рознымі смакоццямі, прыносячы ў іх ліку ахвяры з жывёл. Адным словам стараліся, каб такому святому кракадзілу жылося як у нейкім кракадзілавым раю, а калі ён здох, тады бальзамiравалі яго і хавалі ў шыкоўнай ракавіне. Жыхары ж старажытнаегіпецкай Элефанціны баяліся іх і рабілі наадварот — кракадзілаў забівалі і з'ядалі, бо не лічылі іх святымі. Большасць егіпцян пайшла за прыкладам элефанцінцаў і кракадзілы амаль поўнасцю былі там вынішчаны.

У сённяшнія багатыя дамы вяртаецца старажытнафіванская мода трымаць дома небяспечную жывіну і магчыма, што наш кракадзіл уцёк з панадворка нейкага фешэнебельнага палескага калгасніка. Але магчыма таксама, што ў ігру падключылася глабальная палітыка. Як нам добра вядома, усенародналюбімы наш прэзідэнт, быццам самы адчайны прафсаюзнік, стаў сцяною за адным сваім калегам па прафесіі, на харомы якога імперыялістычныя аэрапланы намагаліся скідаць бомбы. На нашае памежжа яшчэ не выпадае кідаць бомбаў, нават памылкова, таму магчыма, што з увагі на вербальную заангажаванасць нашага любімца ў драку, буржуі скінулі нам цалкам мэтанакіравана небяспечнага кракадзіла, так як некалі скінулі каларадскага жука на тэрыторыю варожай ім савецкай акупацыйнай зоны ў Германіі. А можа гэта не кракадзіл, а яшчэ больш небяспечная здань — можа гэта пачвара з шатландскага возера Лох Нес! Чытач, які вытрымаў да гэтага месца, пэўна зараз паставіць пытанне: як гэта — верагодных доказаў існавання пачвары з Лох Нес няма, а тут яна раптам у нашых вадаёмах?.. А адказ просты: пачвару, так як і янтарны пакой, падхапілі багатыя амерыканскія буржуі і трымалі ў засакрэчанасці, як самую сакрэтную зброю, і цяпер, калі надарылася нагода, выпусцілі на поле бою.

Нядаўна ў возеры Лох Нес устаноўлена камеру, пастаянна падключаную да інтэрнету, каб дапытлівыя маглі ўбачыць пачвару ўвачавідкі. А дарэмна: камеру лепей устанавіць у рэчцы, якую некалі ў Гайнаўцы называлі Смярдзелкаю. Бо пачвара, як дагістарычны рэлікт, атрымаўшы свабоду, напэўна направіцца ў музей. Нам трэба толькі нарыхтаваць крыху золата каб, перад бальзаміраваннем надзець ёй залатыя браслеты і ўставіць залатыя зубы.

**Адам Маньяк**

Фрашкі па нашых

## „На Бэма"

Сядзяць Галя з Веркай на лаўцы пад блёкам.
У блёку вёску змесціш, не абыдзеш крокам
Весь раён ў гадзіну. А Верка ўжо — „Веся",
А Галя — тая з роду Галяю з Падлесся.
Перамыюць косткі кожнае суседкі
З кожнага паверха й лесвічнае „клеткі".
— Тая спіць... у заслонах, з іх пасцель пашыла!!!
— А тая шкадуе парашку ды мыла,
Глянь ты, на балкон вешае ўсё ў плямах!
— А тае дзяўчына вяртаецца з ранку!..
— А тая адзела мест майтак фіранку...
Усе справы знаюць, за ўсё баліць сэрца...
А язык не спухне той Галі і Верцы.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. фруктовае дрэва з невялікімі сакавітымі пладамі з костачкай у сярэдзіне, 4. Рыноске, японскі пісьменнік (1892—1927), 6. спецыяліст у галіне хіміі, 7. у першабытным грамадстве лічыцца пачынальнікам плямені, 9. замазка для акон, 11. порт у Маўрытаніі, 12. Мігель дэ, іспанскі філосаф і пісьменнік (1864—1936), 13. адзінка вымярэння атмасфернага ціску, 15. рака і правінцыя на поўдні Аргенціны, 17. дах на слупах, які ахоўвае ад непагоды, 18. Ігнат, гісторык Вялікага княства Літоўскага, ураджэнец Бельшчыны (1788—1843), 19. добры — раднейшы за роднага брата.

**Вертыкальна:** 1. горы ў Азіі, 2. горад між Баранавічамі і Бабруйскам, слаўны паясамі і паўстаннем, 3. моцнае захапленне, запал, 4. горад на захадзе Індыі, 5. Надзея, аўтарка зборніка „Сезон у белых пейзажах", 6. майскі жук, 8. Іозеф, чэшскі мастак (1820—1871), 9. правільны шасціграннік, 10. вымерлы дзікі бык, продак буйной рагатай жывёлы, 14. паручыцель вэксаля або чэка, 16. спорт Наталлі Зверавай, 17. вялікая рыбалоўная сетка.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 20 нумара**

**Гарызантальна:** алібі, палітыкан, Пурус, Таўпа, Яна, прэнгер, бенталь, два, Арэса, Гайдн, Анджэліка, шпага

**Вертыкальна:** біятлон, атлас, Іркут, Пірандэла, няўстойка, парта, арлан, ярд, Аба, ветэран, Агдаш, гліна.

Рашэнне: **Кастусь Каліноўскі**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## Кароткі курс параноі

**Комплекс лідэраў**

Лідэр — вядучы. Спасцігшы хітрасць слова, лідэр ператвараецца з павадыра ў пастыра, затым у правіцеля, правадыра, увасабленне партыі, нацыі. Спынімся на першай ступені таінства — павадырстве. Павадыр — той, хто водзіць каго-небудзь, паказвае дарогу. З'яўляецца ім, для прыкладу, вядучы ў цемрастоцкім тэлецэнтры. Яму здаецца, што калі ён прывёў у студыю барана, дык без ягонай дапамогі кучаравы сваяк згубіць арыентацыю і замест да пустарогага сямейства, будзе бэкаць да ваўкоў. Таму ён, хоць у матэрыі ні „бэ" ні „мэ", сцябае барана павадырскім словам, пакуль той не завые па-воўчы.

Гэта яшчэ паўбяды. Бяда пачынаецца, калі на арэну павадырства выходзіць палітык. Яскравым прыкладам Хрушчоў. Куды ён толькі не ўсоўваў сваю бульбяную нюхаўку. У Запаляр'і сеяў кукурузу, вучоных пасылаў па навуку да кузькінай маці, паэтаў вучыў пісаць вершы пад Дзямяна Беднага, з музыкі вымятаў какафонію, кампазітарам загадваў смажыць кукурузныя частушкі, у ААН уводзіў чаравічны бон тон, Украіне падарыў Крым.

Ну, але гэта быў найвялікшы расійскі прыдурак. А на Русі прыдуркаў заўсёды шанавалі. А як павадырыў Горбі, найсвятлейшы крамлёўскі цар? Тыя ж, мужыцкія манеры. Запамяталася ягонае павадырства на сесіі Вярхоўнага Савета. Дзейнічаў, бы цемрастоцкі тэлевядучы. Як толькі Сахараў увайшоў на трыбуну, перапыніў вучонага, збіваў з панталыку, іранізаваў, прыніжаў, аж той зніякавеў. Гэты момант вялікім планам пусціла тэлебачанне. І гэта быў апошні жывы партрэт сумлення нацыі.

А як у нас? Тут кожны павадыр. Пасадзіце ў тэлек Мар-дэ-Янку, Калінку і Млынара. Адзін другога не дапусціць да слова. Кожны будзе цягнуць адначасова сваю песню і мы з гэтага тэрцэта толку не вылузаем.

Комплекс лідэраў — пакута ад няздзейсненага. Гэта вялікая бяда.

**Сідар Макацёр**

Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка:

**Песня кукурузніцы**

У кукурузе мы качаліся
І з Мікітам цалаваліся.
У кукурузе раптам сталася,
У кукурузе павянчаліся.
Кукуруза павітухай была,
У кукурузе я дачушку павіла.
І назвалі Кукурузкай яе,
З Кукурузкаю жыццё пяе.